• выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

• кошт 3000 рублёў

29 кастрычніка 1998 г. чацвер № 212 (23563)

# ЗВЯЗДА




## ТЭЛЕГРАМА

***Дзяржаўным органам Рэспублікі Беларусь і адміністрацыям свабодных эканамічных зон у Рэспубліцы Беларусь***

Аднавіць з дня падпісання гэтай тэлеграмы агульнарэспубліканскую рэгістрацыю (перарэгістрацыю) суб'ектаў гаспадарання (у тым ліку прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы), што займаюцца толькі вытворчасцю прадукцыі.

Да выдання адзінага нарматыўнага акта аб парадку дзяржаўнай рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання агульнарэспубліканская рэгістрацыя ажыццяўляецца адпаведна аблвыканкамамі (Мінгарвыканкамам) і Міністэрствам знешніх эканамічных сувязяў пры наяўнасці ва ўстаноўчых дакументах поўнай субсідзіярнай адказнасці ўласнікаў (заснавальнікаў) юрыдычнай асобы па яе абавязацельствах перад бюджэтам і іншымі крэдыторамі, а таксама даведкі падатковых органаў. Персанальная адказнасць за правядзенне агульнарэспубліканскай рэгістрацыі ўскладаецца на адпаведных намеснікаў старшынь аблвыканкамаў (Мінгарвыканкама).

Суб'екты гаспадарання, якія прайшлі агульнарэспубліканскую рэгістрацыю да яе прыпынення і якім не прысвоены ўліковы нумар падаткаплацельшчыка, маюць права прайсці перарэгістрацыю толькі пры ўмове прывядзення ўстаноўчых дакументаў у адпаведнасць з патрабаваннямі часткі першай і другой гэтай тэлеграмы. Плата за перарэгістрацыю з гэтых суб'ектаў гаспадарання не бярэцца.

Прысваенне ўліковага нумара падаткаплацельшчыка без агульнарэспубліканскай рэгістрацыі ў адпаведнасці з патрабаваннямі гэтай тэлеграмы не праводзіцца.

Абмежаванні па ажыццяўленню агульнарэспубліканскай рэгістрацыі не распаўсюджваюцца на рэзідэнтаў свабодных эканамічных зон у Рэспубліцы Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*27 кастрычніка 1998 г., г.Мінск.*

***ДА 80-ГОДДЗЯ КАМСАМОЛА***

**Уладзімір ПАДРЭЗ:**

## «ЧАЛАВЕКА ГУБЯЦЬ ПАСІЎНАСЦЬ І АБЫЯКАВАСЦЬ»

**Аргкамітэт па святкаванню 80-годдзя заснавання камсамола не выпадкова ўзначаліў Уладзімір Падрэз. Мала ў Беларусі знойдзецца людзей з такім багатым і насычаным камсамольскім мінулым. Нельга ўстрымацца і не пераказаць яго біяграфію хаця б коратка. 22 гады У. Падрэз аддаў камсамолу: з 1952 па 1974 год. Пачынаў, як і ўсе, з «пярвічкі», настаўнічаў у школе, быў няштатным сакратаром райкама камсамола, з 58-га — другі, а потым — першы сакратар Чашніцкага РК ЛКСМБ. Пасля гэтага некалькі гадоў адпрацаваў у Віцебскім абкаме, на працягу чатырох гадоў быў у апараце ЦК ВЛКСМ на пасадзе намесніка загадчыка камсамольскіх органаў па саюзных рэспубліках. Пік кар'еры камсамольскага функцыянера прыпаў на 1969—1974 гады, калі, вярнуўшыся з Масквы, У. Падрэз стаў спачатку другім, а пасля і першым сакратаром ЦК ЛКСМБ.**

***(Заканчэнне на 3-й стар.)***

## ПАВЫШЭННЕ ТАРЫФАЎ НА ТЭЛЕФОН — ВЫРАШАНАЯ СПРАВА

Як стала вядома «Звяздзе», мяркуемае павышэнне тарыфаў на паслугі тэлефоннай сувязі, якога ўсе спажыўцы чакалі адразу пасля павышэння памеру мінімальнай заработнай платы, адбудзецца ў пачатку лістапада. Такім чынам, людзям усё ж далі магчымасць атрымаць свае новыя зарплаты, перш чым прымусіць іх плаціць за тэлефонныя размовы па новых расцэнках.

Згодна з інфармацыяй, атрыманай у Рэспубліканскім аб'яднанні «Белтэлекам», у найбольшай ступені — да 30 працэнтаў у залежнасці ад «адрасата» — падаражэюць міжнародныя тэлефонныя размовы. Ад 10 да 20 працэнтаў узнімуцца тарыфы на міжгароднюю ўнутрырэспубліканскую тэлефонную сувязь. Таксама павышэнне тарыфаў ад 10 да 20 працэнтаў чакае абаненцкую плату і пахвілінную плату ў гарадах, а гэта значыць, што ахвотнікам мянціць языком самы час папрактыкавацца ў сціслым выкладанні сваіх думак.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

***Я і мая сям'я***

# БОРШЧ І ПЕЛЬМЕНІ — У ЦЭНТРЫ ПАМЕЖНАГА ПРАЕКТА АПТЫМІСТАЎ І ПРАЦАГОЛІКАЎ БЕЛЫШАВЫХ

**Белышавы прынцыпова не жадаюць гандляваць «снікерсамі-марсамі-памперсамі». Гаспадыня дома Святлана, не саромеючыся — маўляў, маю права на прыватнае меркаванне, называе гэта «лодырніцтвам». Яе падтрымлівае і муж Уладзімір: «Хочацца працаваць, пакуль ёсць сілы і магчымасці, зарабляць сабе на жыццё дастойна».**

**Таму Белышавы ўзялі і проціпаставілі ўсякім заморскім ласункам гастранамічныя «каштоўнасці» з ліку вечных, а іменна: боршч, расольнік, пельмені, галубцы і да таго падобнае. І ўявіце сабе, што борш з памежнай вёскі Пянькоўкі цяпер па-за канкурэнцыяй сярод «дальнабойшчыкаў» на трасе «Масква—Івацэвічы».**



Знаёмства з сям'ёй Белышавых можна рэкамендаваць не толькі ўсім згаладалым, але і тым, хто канчаткова страціў веру ў светлае будучае і ўласныя магчымасці. Белышавы ніколі не здаюцца і не кажуць, што гэта канец — усё, прыехалі. Напэўна кожны, хто паслухае ў прынцыпе простую гісторыю гэтых людзей, пачынае па-іншаму глядзець і на ўласны лёс: чым сядзець на канапе і разважаць пра «фатум», лепш дзейнічаць і рызыкаваць. Хаця б сумна не будзе.

Святлана Белышава нарадзілася на Магілёўшчыне, але замуж пайшла за хлопца з Крыма. Спачатку жылі ў інтэрнаце, а потым будавалі дом у сяле непадалёк ад Феадосіі — некалькі дзесяткаў кіламетраў і ад Чорнага мора, і ад Азоўскага. Там і ўсе зручнасці, і вялікая колькасць пакояў, і агарод, і хлявы — утрымлівалі вялікую гаспадарку, якая амаль поўнасцю забяспечвала сям'ю. Працавалі таксама ў мясцовым саўгасе: Святлана — лабарантам, Валодзя — даглядчыкам жывёлы на ферме.

У Белышавых — два сыны, Вася ходзіць зараз у трэці клас сярэдняй школы, а Юру — 22 гады, ён не так даўно ажаніўся на сімпатычнай дзяўчыне Аксане. Адным словам — вялікая і дружная сям'я, і ўсё было б добра, калі б не суровая постсавецкая рэчаіснасць у Крыме. Месца, здавалася б, спрыяльнае «на ўсе сто» для развіцця і сельскай гаспадаркі, і курортнага бізнесу, а значыць — і для росту даходаў жыхароў. Але цяпер яна ператварылася, па словах Белышавых, у «джунглі», дзе адзін працэнт шыкуе, а астатнія, як бы ні працавалі, усё роўна застануцца жабракамі.

Тры гады таму Белышавы прыехалі ў госці да маці Святланы ў Беларусь, у Клімавіцкі раён. Ехалі па трасе і аднойчы зразумелі адрозненне ад Крыма. «Тут увогуле няма дзе паснедаць!» — жахнуліся прыезджыя. І нават на самай мяжы, якая спрадвеку лічылася самым бойкім гандлёвым месцам. Вопыт сённяшняга крымскага жыцця, дзе кроку нельга ступіць, каб табе не прапанавалі то чабурэкі, то пірагі с капустай, падказаў Белышавым новы праект іх жыцця.

«Цяжка і дрэнна зараз жыць у Крыме, ды і ўвогуле... пад старасць мяне пацягнула на радзіму. Усё ж такі 42 гады», — прызналася Святлана. Так і ўгаварыла мужа пераехаць у Беларусь і, лічы, пачаць зусім новае жыццё.

Сваю крымскую ўласнасць Белышавым прадаць не ўдалося. Напрыканцы 80-х гадоў за іх дом можна было лёгка атрымаць 30 тысяч долараў, а зараз, у сувязі з усеагульным збядненнем, толькі тры тысячы долараў. Таму, каб развітацца са сваім мінулым жыццём канчаткова, Святлана і Валодзя ўсё яшчэ чакаюць хоць якой-небудзь стабілізацыі, каб заключыць больш-менш выгадную для сям'і здзелку.

Яны знайшлі хату на продаж у Клімавіцкім раёне, у вёсцы Пянькоўка. Як і разлічвалі для свайго праекта — на важнай трасе «Масква—Івацэвічы», амаль на самай мяжы з Расіяй, не даязджаючы некалькі кіламетраў да КПП. Каб набыць хату, дзе жыла адзінокая бабуля, — яна захварэла, і дзеці забралі яе да сябе ў сталіцу, прадалі ў Крыме сваю жывёлу і дом бацькоў. Толькі-толькі

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

***ЗДАРЭННЕ***

## ЗАХАПІЎ РЭЙСАВЫ АЎТОБУС З ЗАЛОЖНІКАМІ... «ПА П'ЯНІ»

**23 кастрычніка ўвечары адбылося надзвычайнае здарэнне ў Асіповіцкім раёне**

Каля 20 гадзін у рэйсавы аўтобус «Ялізава—Асіповічы» паблізу вёскі Прудзішча ўвайшоў невядомы і, пагражаючы нажом і ўзрывам аўтобуса, прымусіў вадзіцеля ехаць у райцэнтр без прыпынку. На гэты час у аўтобусе знаходзіліся пяць пасажыраў, з іх трое жанчын. У Асіповічах мужчына запатрабаваў ад супрацоўнікаў міліцыі, якія тэрмінова прыбылі на месца здарэння, зараджаны пісталет, радыёстанцыю і алкагольныя напоі. Міліцыя ачапіла прывакзальную плошчу ў Асіповічах, грамадзяне былі эвакуіраваны ў бяспечнае месца. Адцягваючы ўвагу нецвярозага сельскага тэрарыста, групе захопу ўдалося вывесці з салона аўтобуса жанчын, а потым затрымаць і самога парушальніка парадку. Ім аказаўся 30-гадовы жыхар вёскі Вязычын, непрацуючы, асуджаны за крадзеж з адтэрміноўкай выканання прыгавору. У хулігана былі канфіскаваны нож і стандартная тратылавая шашка з электрадэтанатарам, так што пагрозы былі зусім рэальнымі. Следства зараз высвятляе ўсе абставіны гэтага здарэння, але вядома, што «забаўляўся» мужык пасля прыняцця саліднай дозы алкаголю.

**Ілона ІВАНОВА.**



***Усміхнёмся!***




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

*— Тата, ты што зайцоў баішся?*
*— Чаму ты так лічыш?*
*— Тады чаму ты з сабой бярэш на паляванне сабаку?*

•

*Муж дазволіў жонцы праехаць за рулём легкавой аўтамашыны. Праз некалькі гадзін ён пачаў хваляваца за яе лёс і выйшаў на дарогу.*

*— Паслухайце, — спытаў ён свайго знаёмага, — вы не бачылі маю жонку?*

*— Бачыў, бачыў, — адказаў той. — Вунь там, не даязджаючы да лесу, яна збірала металалом.*

•

*Суддзя:*
*— Чаму вы выраблялі фальшывыя грошы?*
*Падсудны:*
*— Як чаму? Таму што сапраўдныя рабіць я яшчэ не навучыўся.*

## «ЧАЛАВЕКА ГУБЯЦЬ...»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

**Сёння ветэрану камсамола 61 год, ён пенсіянер МУС, палкоўнік у адстаўцы, працуе ў Інстытуце сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Ён па-ранейшаму ў душы адчувае сябе камсамольцам, пра што і расказвае ў сённяшнім інтэрв'ю «Звяздзе» як старшыня арганізацыйнага камітэта па святкаванню юбілею.**

***— Уладзімір Іосіфавіч, што для вас тады азначаў камсамол і што ён значыць сёння?***

— Гады юнацтва, справы маладосці ацэньваеш толькі потым, праз прызму часу. Мне прыемна ўспамінаць, наколькі цікавым і шматгранным было тады жыццё, былі цікавыя справы, мы весела жылі, працавалі, вучыліся, адпачывалі. Сёння я памаладзеў, нібыта зноў вярнуўся ў гады юнацтва. Гэткае ж пачуццё звёдваюць мае сябры і паплечнікі па камсамолу. Мы атрымалі нейкі імпульс, новы запал. Ведаеце, падрыхтоўка да святкавання юбілею ідзе з такім пад'ёмам, якога мы нават не чакалі. Калі ствараўся аргкамітэт, то мы меркавалі, што ўсё пройдзе даволі ўраўнаважана і спакойна. Таму задаю сабе пытанне: чаму так адбываецца, чаму ў людзей захаваліся такія цёплыя ўспаміны пра камсамол? Думаю, што ў свой час камсамол рабіў высакародную справу, ён выхоўваў моладзь, людзі не заставаліся без увагі, без занятку, яны адчувалі сябе патрэбнымі. І гэта была штодзённая работа, якая не заўважалася, як не заўважаецца ціканне ходзікаў на сцяне. Толькі пасля таго, як камсамол саманіквідаваўся, гэтая нябачная дзейнасць стала відавочнай.

***— Вось ужо сем гадоў, як камсамол у ранейшым выглядзе не існуе. За гэты час вашы погляды на мінулае нейкім чынам трансфармаваліся?***

— Ні ў якім разе. Нам не сорамна за камсамольскае юнацтва, за тыя справы, якімі мы займаліся. Нам ёсць чым ганарыцца, прычым не толькі камсамольскім функцыянерам. Калі размаўляеш з радавымі камсамольцамі, то бачыш гэтыя ж прыязныя адносіны. Аўтарытэт камсамола, самай масавай маладзёжнай арганізацыі, аказаўся непахісным. Вядома, былі пэўныя памылкі і недахопы. Але памылак не робіць той, хто не працуе. Таму, калі б усё можна было пачаць наноў, то, мяркую, я нічога не мяняў бы.

***— Сённяшнія мерапрыемствы — гэта, на вашу думку, спроба адраджэння камсамола ці даніна памяці?***

— Зразумела, даніна памяці. Пра адраджэнне, мне здаецца, зараз гаварыць не прыходзіцца. Як кажуць, двойчы ў адну раку не ўвайсці. Зараз не той час, іншая псіхалогія моладзі, узровень адукаванасці, іншыя інтарэсы і патрэбы. Таму ў сённяшніх умовах патрэбны іншыя метады і формы работы. Але мы гатовы падзяліцца сваім вопытам. Няхай моладзь бярэ ўсё карыснае і каштоўнае, што меў камсамол.

***— У Беларусі святочныя мерапрыемствы пройдуць нават з удзелам прэзідэнта. Чым вы тлумачыце такі высокі ўзровень?***

— Мне прыемна, што аналагічная падрыхтоўчая праца вядзецца паўсюдна — як у Беларусі, так і ў іншых рэспубліках былога СССР. Напрыклад, 29 кастрычніка таксама пройдзе ўрачыстая вечарына ў Крамлёўскім палацы з'ездаў, урачыстасці адбудуцца ў расійскіх рэгіёнах з удзелам ветэранаў камсамола, губернатараў. Гэта гаворыць пра тое, што ўсе спробы ачарніць камсамол, гісторыю і памяць пра яго праваліліся. Значыць, у сэрцах мільёнаў людзей жывуць добрыя ўспаміны пра камсамольскае юнацтва. Нават нягледзячы на тыя недахопы, якія былі ў рабоце камсамола.

***— Дарэчы, няёмка казаць пра недахопы напярэдадні юбілею, але што вы не пажадалі б сённяшняй моладзі пераймаць з камсамольскага вопыту?***

— Мне цяжка адразу адказаць. Мне хочацца, каб сённяшняя моладзь імкнулася да актыўнай жыццёвай пазіцыі, каб не кіравалася лозунгам «адзін у полі не воін». Сёння трэба ставіць пытанне інакш: а хто, калі не я? Трэба ўсведамляць, што чалавека губяць пасіўнасць, абыякавасць і раўнадушша.

***— Для таго, каб быць добрым хлопцам ці дзяўчынай, патрыётам сваёй краіны, абавязкова быць членам нейкай арганізацыі? На ваш погляд, арганізацыя фарміруе асобу, ці людзі вызначаюць арганізацыю?***

— Гэтае пытанне з галіны дыялектыкі. Я мяркую, што арганізацыя ўзмацняе таленты і магчымасці аднаго чалавека, дапамагае ім раскрыцца. Памятаеце: адна галава — добра, а дзве — лепш? Малады чалавек абавязкова павінен быць у калектыве. Нешта рабіць лепш за ўсё разам.

***— Як вы ставіцеся да таго, што зараз на духоўную спадчыну камсамола ў Беларусі прэтэндуюць адразу некалькі маладзёжных арганізацый?***

— Я не ўхваляю падобнага перацягвання коўдры. Я за тое, каб маладзёжныя арганізацыі аб'ядноўвалі свае намаганні і вырашалі канкрэтныя задачы, каб рабілі агульную справу. Дарэчы, мне здаецца, што святкаванне 80-годдзя камсамола аб'яднала не толькі розныя маладзёжныя арганізацыі, але і людзей розных пакаленняў. Хочацца, каб пасля заканчэння ўрачыстасцяў гэтая сувязь не знікла, а пашыралася і давала плён.

***— Дзякуй за размову.***

— Карыстаючыся магчымасцю, хачу перадаць чытачам паважанай «Звязды» віншаванні з нагоды юбілею, падзякаваць за добрую памяць. Жадаю ўсяго найлепшага: здароўя, шчасця, каб усе цяжкасці, якія мы зараз перажываем, былі пераадолены.

**Гутарыў Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**




## БОРШЧ І ПЕЛЬМЕНІ...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

хапіла, каб адкрыць «Прыватнае прадпрыемства Белышавых». Прычым — вось дзе парадоксы нашага беларускага жыцця! — аднолькава семсот долараў каштавала і хата, і касавы апарат, без якога немагчыма было пачаць задуманую справу. Прыйшлося пазычаць у тутэйшых сваякоў.

Ну і што? Белышавы бачылі і не такія перашкоды, ніхто з іх не разгубіўся і ніколі не пашкадаваў, што радыкальна змяніў месца жыхарства і ўсё сваё жыццё. Проста сталі працаваць — з новага года адчынілі на памежжы адзінае ў гэтых мясцінах прыдарожнае кругласутачнае кафэ «Хатняя кухня».

Ніхто з супрацоўнікаў кафэ не з'яўляецца дыпламаваным спецыялістам. Кухараць так, як рабілі гэта для сябе ўсё сваё жыццё. Поварскія гены ёсць толькі ў галавы сям'і: маці Валодзі працавала ў сталоўцы НДІ імя Чкалава шэф-поварам і ў свой час гатавала для Юрыя Гагарына, Валянціны Церашковай і яшчэ дзесятка першых касманаўтаў. Напэўна таму ў гаспадара кафэ неверагодна смачнымі атрымліваюцца баршчы і расольнікі — фірменныя стравы «Хатняй кухні».

— Найвялікшым попытам сярод нашых наведвальнікаў карыстаецца не што іншае, як звычайны боршч, — распавядае Святлана. — Нават пельмені баршчу ўступаюць. І праўда, пельмені ў прынцыпе можна замяніць на каўбасу, а вось гарачы боршч — гэту страву нічым не заменіш, асабліва калі ты ў далёкай дарозе. Вандроўнік «напхаўся» сухой каўбасы, бульбяных чыпсаў, і душа яго патрабуе талерку баршчу са смятанай...

Сямейны падрад Белышавых прадугледжвае занятасць для кожнага. Святлана больш робіць стравы з цеста, а таксама галубцы. У нявесткі ўсё атрымліваецца няблага, але ўлічваючы, што Аксана прыехала з Казахстана, плоў і манты ў ейным выкананні не маюць сабе роўных, ва ўсякім разе — на тэрыторыі Клімавіцкага раёна. Старэйшы сын Юра працуе «на падхваце»: дапамагае там, дзе не хапае рук, а таксама мае абавязак прынесці своечасова дровы і ваду. Малодшы Вася таксама дапамагае: то бульбу чысціць, то цыбулю. «Праўда, са слязамі — але дапамагае», — усміхаецца маці.

Ніякай рэкламы свайму прадпрыемству Белышавы не рабілі: грошай няма, ды і шыльда пры дарозе сама за сябе гаворыць — паверце, страўнік на яе добра адгукаецца. Народ далёка не адразу пайшоў у новае кафэ, але за пару месяцаў справа наладзілася. Тут гатуюць ежу як для сябе, добра разумеючы: калі чалавека пачастуеш нечым дрэнным, той больш ніколі тут не спыніцца. Порцыі ў гэтым кафэ разлічаны на здаровага мужыка, а цэны — такім чынам, каб быў прыбытак гаспадарам, але і наведвальнікам не было вельмі стратна. Алкаголю тут не падаюць, але тым самым «Хатняя кухня» застрахавала сябе ад іншых праблем у выглядзе бруду і хуліганства і гарантуе сваім кліентам поўны спакой і адпачынак.

«Хто хоць аднойчы ў нас паснедаў, той міма ніколі не праязджае», — упэўнены Валодзя. Некаторых «дальнабойшчыкаў» як пастаянных кліентаў гаспадары кафэ цяпер ведаюць у твар і імкнуцца запомніць іхнія прыхільнасці.

— Аднойчы ў нас не было святла — усё ж такі звычайная хата ў вёсцы, — расказаў выпадак Валодзя. — Ну і вырашылі, што гэтай ноччу мы нарэшце выспімся. Не — грукаюць у дзверы! Выйшаў і кажу хлопцам — прабачце. А яны мяне просяць пакарміць хоць як-небудзь, бо менавіта да нашага кафэ імкнуліся «дацягнуць». Як тут адмовіш? Снедалі пры свечках. А ўвогуле народ вельмі ветлівы, проста малайцы. Ніхто не падняўся з-за стала, не сказаўшы нам «дзякуй».

«Тут жыццё ў сто разоў лепшае, і пасля Крыма — проста рай», — упэўнены ўсе Белышавы. Яны сталі патроху забывацца пра свае заработныя платы, якія не плацілі па пяць гадоў, і пра мяса здохлых кароў па рыначнай цане, якое прапаноўвалася ў якасці натуральнай аплаты працы. Галоўным дасягненнем беларускага грамадства гэтыя крымскія пакутнікі лічаць наяўнасць працуючых уладных структур і месцаў, куды можна паскардзіцца.

Хаця і на нашай зямлі ў пачынаючых бізнесменаў Белышавых праблем хапае. І падаткі спачатку надта адчувальныя былі, і цяпер санітарная станцыя не вельмі задаволена ўмовамі, у якіх працуе «Хатняя кухня». Па-другое, новыя цяжкасці, звязаныя з мерамі па абароне спажывецкага рынку Беларусі. Пасля прыняцця іх і шаша памежжа стала не вельмі шматлюднай, і нормы водпуску тавараў прымусілі ездзіць за пакупкамі ўсёй сям'ёй: калі кожны возьме па слоіку смятаны — акурат на дзень хопіць...

Сямейны падрад гатовы нават да заканадаўцаў звярнуцца, каб яны дапамаглі тым, хто займаецца сапраўднай працай, ільготнымі крэдытамі. «Ведаеце, калі размова ідзе пра перапродаж, спекуляцыю, дык тым і дапамагаць не трэба, самі ў стане выкараскацца. А мы ж робім сваімі рукамі: згатуеш боршч, спячэш пірог — прадасі... Гэта ўсё сваёй працай даецца, хаця, праўда, мала хто разумее. Вось бабулям з нашай вёскі ўсім дапамагаем, чым можам, а яны не-не ды і скажуць, што мы грошы рыдлёўкай грабём. А што суткамі працуем, дык гэтага не бачаць. Але ж адна справа — вясковыя пагалоскі, і другая — закон у дзяржаве», — разважае гаспадыня прыватнага кафэ.

Ёсць і бытавыя цяжкасці ў прадпрымальных Белышавых: зараз прыходзіцца ім упяцярых жыць у адным пакоі, што камфортным жыццём наўрад ці назавеш, але, як заўзятыя аптымісты, яны мяркуюць, што ўсё абавязкова зменіцца з цягам часу ў лепшы бок. Трэба толькі дзеля гэтага працаваць!

Грошай хранічна не хапае, але, каб тэрмінова пазбавіцца ад непрыемнасцяў у выглядзе штрафаў, трэба адрамантаваць хату, прывесці яе ў парадак і, галоўнае, зрабіць розныя ўваходы ў кафэ і жылую частку дома. Потым рукам Белышавых трэба па планах дайсці да агарода і пабудаваць цяпліцу, каб мець сваю агародніну круглы год. Далей — яшчэ больш: завесці свойскую жывёлу ў прыстойнай колькасці, каб, як кажа Валодзя, не залежаць ні ад кога і ні ад чога. А потым, магчыма, гатэль адбудаваць, бо і зараз многія наведвальнікі гавораць, што пасля сытных абеду ці вячэры нядрэнна было б і адпачыць непадалёк...

Такім чынам, перспектывы ў памежнага праекта Белышавых прама-такі неабсяжныя. І, гледзячы на зборы Святланы і Васі, які вярнуўся са школы, каб ехаць за пакупкамі і, зразумела, «уплятаючы» ну вельмі ж ужо смачныя галубцы, мы меркавалі: бач, прыехалі людзі на пустое месца, не пабаяліся пачаць сваю справу, а ўсе навокал, відаць, лічылі іх авантурыстамі і чакалі заканамернага правалу, аднак яны дабіліся свайго насуперак усяму! А калі не даб'юцца свайго канчаткова — відаць, не заплачуць, а рызыкнуць і пачнуць наноў...

А многія з нас так ніколі і не здолеюць рызыкнуць, ніколі не асмеляцца ўвасобіць у жыццё які-небудзь вар'яцкі праект і выйграць свой шчаслівы білет. Проста, напэўна, лягчэй назіраць за жыццём з лаўкі каля дома і марыць пра цудоўныя змены ў сваім жыцці разам з казачнымі героямі чарговага бразільскага серыяла...

**Ілона ІВАНОВА.**
**Фота Ірыны САВОСІНАЙ.**
*Клімавіцкі раён.*

## Таксісты дачакаліся змены тарыфаў

**Загадам Міністэрства транспарту і камунікацый з 1 лістапада ў краіне павялічваюцца тарыфы на праезд у таксі.**

Так, з пазначанай даты гранічны кошт аднаго кіламетра праезду складае 15 тысяч рублёў (было 11 тысяч рублёў). За так званую пасадку давядзецца плаціць таксама 15 тысяч (раней было 11 тысяч), за гадзіну прастою па віне пасажыра — 150 тысяч (да гэтага — 110 тысяч рублёў). Павелічэнне тарыфаў датычыць аўтатаксапрадпрыемстваў усіх формаў уласнасці.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## У ЯРАСЛАЎЛІ АСАБЛІВЫХ СЕНСАЦЫЙ НЕ ЧАКАЕЦЦА

У папярэдні парадак дня чарговай сесіі Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі, якая адбудзецца 2-3 лістапада ў Яраслаўлі, уключаны аж 23 розныя пытанні. Але насуперак таму, што чакалася раней, ніякіх сенсацыйных рашэнняў і на гэты раз не чакаецца.

Па-першае, ніякай размовы аб прыняцці Югаславіі ў састаў Саюза, не будзе, усе падобныя размовы аб гэтым, якія вёў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Валерый Драко, ягоны калега, старшыня Пастаяннай камісіі па міжнародных справах ніжняй палаты парламента Беларусі Аляксандр Козыр назваў «жартам, які журналісты прынялі за чыстую манету».

Кіраўнік адпаведнай камісіі Савета Рэспублікі Мікалай Чаргінец таксама падкрэсліў на прэс-канферэнцыі 27 кастрычніка, што «ні аб якім уваходжанні Югаславіі ў Саюз размовы не ішло і не ідзе». Можа быць прыняты рашэнне толькі аб статусе назіральніка для парламента Югаславіі ў Парламенцкім Сходзе Саюза.

Па-другое, што датычыць стварэння міждзяржаўных органаў і вышэйшых пасад Саюза, то, як зазначыў А. Козыр, «гэта выходзіць за рамкі тэрміну паўнамоцтваў цяперашніх парламентаў, а можа быць, і за межы тысячагоддзя».

На пасяджэнні ў Яраслаўлі дэпутат Дзярждумы Алена Мізуліна будзе прадстаўляць пытанне «Аб пераўтварэнні Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі ў прадстаўнічы і заканадаўчы орган». Як лічыць Мікалай Чаргінец, гэтае пытанне ўпершыню будзе разглядацца на такім узроўні. «Але хутчэй за ўсё мы не прыйдзем да нейкага пагаднення»,— падкрэсліў ён.

Старшыня Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі па заканадаўству і дзяржаўнаму будаўніцтву Уладзімір Каравай зазначыў, што ўвогуле паводле Канстытуцыі Беларусі не прадугледжаны выбары ў наднацыянальныя міждзяржаўныя органы. Таму і Парламенцкі Сход Саюза не можа выйсці за рамкі Канстытуцыі.

— У нас няма прававой базы. Мне зразумелае жаданне многіх палітыкаў рухаць далей рашэнне гэтага пытання, але яно не настолькі простае. І мне часам здаецца, што мы хочам паставіць воз уперадзе каня. Рашыць гэтае пытанне можа толькі адпаведны міждзяржаўны дагавор, — падкрэсліў У. Каравай.

Як патлумачыў А. Козыр, няма і адзіных падыходаў наконт фарміравання выбарнага Парламенцкага Сходу саюза: адны прапануюць ніжнюю палату сфарміраваць шляхам прамых тайных усеагульных выбараў на тэрыторыі абедзвюх дзяржаў у адпаведнасці з прапорцыямі пражываючага насельніцтва — адзін да дзевяці; другі падыход заснаваны на тым, што калі дзяржавы раўнапраўныя, то і цяперашнія палаты павінны фарміравацца, зыходзячы з роўнага саставу дэпутацкага прадстаўніцтва. На думку Козыра, найбольш прымальны варыянт падзелу мандатаў у прапорцыі 25 (беларусам) да 75 (расіянам). Але пры гэтым патрабуецца ўвядзенне асаблівага механізма абароны беларускай меншасці. Козыр паведаміў, што гэты трэці варыянт будзе разглядацца ў Яраслаўлі, але тое, што ён будзе прыняты, — малаверагодна.

На думку Уладзіміра Каравая, найбольш верагодна, што будуць зрухі пры разглядзе праекта закона аб грамадзянстве Саюза — з усіх праектаў гэты найбольш рэальны. Аднак грамадзянства гэтае спецыяльна прымаць не трэба, выключыць з гэтага грамадзянства таксама нельга, яго можна будзе страціць, толькі згубіўшы грамадзянства адной з краін Саюза.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*Парламенцкі дзённік*

## ГРАМАДЗЯНСКІ КОДЭКС НАКІРАВАНЫ Ў САВЕТ РЭСПУБЛІКІ

**Надзвычай хуткацечным аказалася ўчарашняе пленарнае пасяджэнне Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Дэпутаты працавалі не больш за гадзіну.**

За гэты час яны абмеркавалі ўсе тры пытанні, якія стаялі ў парадку дня сесіі. Галоўнае сярод іх — праект Грамадзянскага кодэкса. Чытачы «Парламенцкага дзённіка» памятаюць, колькі спрэчак было вакол дакумента, калі ён упершыню разглядаўся на папярэдняй сесіі. З вялікімі складанасцямі кодэкс быў адобраны ў Палаце прадстаўнікоў, а потым у Савеце Рэспублікі. Але прэзідэнт не падпісаў яго і вярнуў дэпутатам на дапрацоўку са сваімі заўвагамі. І хаця Камісія па заканадаўству папярэдне абмеркавала прапановы кіраўніка дзяржавы і пагадзілася з заўвагамі, упэўненасці ў тым, што праект не выкліча спрэчак падчас галасавання, не было. Аднак 28 кастрычніка дэпутацкі корпус, відаць, быў у добрым настроі, таму абмеркаванне прайшло без ускладненняў.

Гэтак жа хутка дэпутаты прагаласавалі за праект Закона «Аб прававой ахове тапалогій інтэгральных мікрасхем», прадстаўлены Саветам Міністраў, і адхілілі разгляд законапраекта «Аб геадэзічнай і картаграфічнай дзейнасці».

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# КАРЭЛІЦКІ МАСЛАРОБНЫ ЗАВОД:

# РУХ НАПЕРАД НАСУПЕР

## Пра рост аб'ёмаў, таннае масла і ма



На Карэліцкім масларобным заводзе — падзея: тут толькі што ўвялі ў строй дзеючых новы вытворчы цэх.

Новы цэх увялі ў звычайнай будзённай абстаноўцы, г. зн. без чырвонай стужкі і ўзнёслых прамоў, ды і сам ён адносна невялікі, і, тым не менш, на заводзе гэтай падзеяй вельмі задаволены: на новы цэх тут ускладаюць асаблівыя спадзяванні. З пачаткам яго работы завод значна пашырае асартымент сваёй прадукцыі, прычым ставіць на паток найбольш выгадную для сябе прадукцыю, цэны на якую можна фарміраваць больш-менш самастойна, а гэта значыць з улікам усіх эканамічных і іншых фактараў: попыту і наяўнасці сыравіны ў той або іншай колькасці, сезоннасці, кошту энергарэсурсаў і г. д. Новы цэх будзе выпускаць маянэз, фруктовыя ёгурты, сыркі і іншыя віды прадукцыі, якія раней на заводзе не выпрацоўваліся, прычым гэта прадукцыя будзе фасавацца ў сучасную эстэтычную і зручную ўпакоўку. У новым цэху карэліцкія масларобы змогуць таксама фасаваць у невялікія 200-грамовыя брыкеты адзін з асноўных відаў сваёй прадукцыі — масла, якое да гэтага пакавалася толькі ў шматкілаграмовыя кардонныя скрынкі. Абсталяванне новага цэха — імпартнае, манціравалі і наладжвалі яго балгары.

— З пачаткам работы новага цэха мы, па сутнасці, хоць часткова аднаўляем свой выхад на свабодны рынак (вядома, па новай прадукцыі, бо нашу цяперашнюю, традыцыйную прадукцыю пусціць у свабодны продаж мы практычна не можам), выходзім на прамыя дагаворы непасрэдна з гандлёвымі арганізацыямі, — гаворыць дырэктар прадпрыемства Сяргей Ляйко, — а гэта дае магчымасць пошуку і знаходжання найбольш выгадных для завода варыянтаў.

Карацей кажучы, завод набывае магчымасць задзейнічаць знакаміты матэрыяльны інтарэс, пра неабходнасць якога ўжо колькі сказана і напісана, задзейнічаць хоць бы на невялікім, вузкім напрамку, бо, як будзе бачна ніжэй, з матэрыяльным інтарэсам на заводзе, калі можна так сказаць, не ўсё зразумела. Аднак пра гэта крыху ніжэй.

Увогуле ж Карэліцкі масларобны завод — адносна невялікае і даволі сталае па ўзросту прадпрыемства. Напрыклад, нямала якое абсталяванне на ім ужо цалкам выпрацавала свой рэсурс і пайшло па новаму кругу. Тым не менш, працуе прадпрыемства даволі ўстойліва, а апошнім часам нават нарошчвае аб'ёмы. Так, у мінулым годзе прырост аб'-ёмаў склаў тут каля 30 працэнтаў, сёлета за 9 месяцаў дабавілі яшчэ каля 15 працэнтаў. Прычым прырост зроблены па ўсіх відах прадукцыі, якія выпускаюцца тут (а гэта цэльнамалочная прадукцыя, да якой адносяцца малако, смятана, тварог і кефір, а таксама мяккія сыры, масла і тэхнічны казеін), г. зн. і па «нявыгадных» для вытворчасці відах (пра выгаднасць і нявыгаднасць — таксама ніжэй). Ніякіх запазычанасцяў у карэліцкіх масларобаў практычна няма, падаткі ў бюджэт, разлікі за энергарэсурсы — своечасовыя. На заводзе павялічылі за год колькасць атрыманай таварнай прадукцыі з адной тоны сыравіны (гэта адзін з важнейшых паказчыкаў для прадпрыемстваў дадзенай галіны) амаль на 65 працэнтаў.



● Работніца завода Ірына ЯЎСЕЙЧЫК.

Асаблівую ўвагу ўдзяляюць на карэліцкім заводзе падтрыманню добрых гаспадарчых кантактаў з пастаўшчыкамі сыравіны, г. зн. малака, а ў зону яго збору ўваходзіць практычна ўвесь раён. Тут, зразумела, на першым плане стаіць своечасовасць разлікаў, і яна няўхільна захоўваецца. Пры гэтым грошы гаспадаркам, як правіла, пералічваюцца нават наперад — напрыклад, на сённяшні дзень на іх рахунках знаходзіцца 6 мільярдаў «папярэдніх» рублёў. Карэліцкія масларобы таксама аказваюць дапамогу пастаўшчыкам у забеспячэнні мыйнымі і дэзінфіцыруючымі сродкамі, у арганізацыі збору малака ў насельніцтва.

На заводзе таксама робіцца ўсё для таго, каб забяспечыць выпуск прадукцыі гарантаванай якасці. Пры гэтым разам з санітарна-гігіенічным кантролем тут наладжаны і радыеметрычны кантроль. Прадпрыемства мае свой невялікі фірменны магазін... Зрэшты, як зазначыў дырэктар, тут хацелі б мець больш магазін (пад цяперашні пераабсталявалі ранейшую прахадную завода), але на будаўніцтва не хапае сродкаў...



● Галоўны інжынер завода Раіса ВАЛЧОК з масларобамі Ганнай ГУРСКАЙ, Галінай БЫНДА і Тамарай КОНАН.

Увогуле ж сродкаў не хапае шмат на што, і гэта часам прыводзіць да арыгінальных рашэнняў. Так, на тэрыторыі карэліцкага завода стаіць чыгуначны вагон-рэфрыжэратар, а па словах камерцыйнага дырэктара Мікалая Дзем'яновіча, — на падыходзе яшчэ адзін вагон. Зразумела ўжо, што вагоны прызначаны для выкарыстання (першы з іх — ужо дзеючы) у якасці маразільных камераў для доўгатэрміновага захоўвання прадукцыі. А тыя ж маразільныя камеры асабліва актуальныя ў сувязі з мяркуемым тут далейшым расшырэннем асартыменту, і ў прыватнасці — наладжваннем выпуску цвёрдых і паўцвёрдых сыроў. Аднак некалькі дзяўна чуць пра недахват сродкаў, калі мець на ўвазе, што карэліцкія масларобы разам з тым зарабляюць паўнаважкую валюту. Напрыклад, за мінулы год заробленa каля 500 тысяч долараў. Дзе валюта?

На жаль (і гэта ўжо наступная частка нашага расказу пра завод), валюты на ім практычна не бачаць. І, напэўна, гэта ўвогуле недасягальная мара, калі таксама мець на ўвазе, што тут нават не могуць уласнаручна распарадзіцца выробленай прадукцыяй: распараджаюцца іншыя, пры гэтым для завода вызначылі даволі складаную і заблытаную схему разлікаў. Больш таго, асобныя віды прадукцыі, у тым ліку масла, адзін з асноўных відаў, па выніках за мінулы год аказаліся стратнымі. Так, страт ад выпуску масла на прадпрыемстве атрымалі на суму 1,7 мільярда рублёў. Па сутнасці, толькі казеін прыносіць устойлівы даход. Толькі за кошт казеіну і пакрываюцца страты, менавіта ён і выцягвае завод і яго фінансавыя паказчыкі, ён жа з'яўляецца і валютнай пазіцыяй — казеін вельмі ахвотна бяруць за мяжой. Як, напэўна, зразумела ўжо, стратнасць пачынаецца з цэн, якія вызначаюцца для завода аблвыканкамам. Дарэчы доля заработнай платы работнікаў завода ў структуры ўсяго сабекошту прадукцыі складае 0,5 працэнта, на заводзе зусім невялікі штат адміністрацыйна-кіруючага персаналу...

Аднак адносна таго, як заводу дапамагаюць распараджацца яго прадукцыяй (варта пры гэтым падкрэсліць: не так даўно ён стаў акцыянерным таварыствам, асноўнай мэтай якога з'яўляецца атрыманне прыбытку). Уся яго прадукцыя строга «зафандзіравана»: частка яе пастаўляецца пад дзяржаўны заказ, астатнюю частку забірае вобласць для, як зазначылі ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, набыцця праз бартэрныя аперацыі «крытычнага імпарту».

У адпаведнасці з гэтым для завода вызначаны дзве цаны: фіксаваная цана і бартэрная (апошняя прыкладна на 20 працэнтаў вышэй і часам дазваляе ўсё зводзіць прыкладна па нулях). Адносна зразумела з разлікамі па дзяржзаказу: сродкі з холадакамбінатаў паступаюць непасрэдна на рахунак завода, праўда, пры гэтым дзеючая фіксаваная цана ніколькі не акупляе яго выдаткаў. Схема разлікаў «па бартэру» — наступная. Возьмем, напрыклад, казеін. Яго завод перадае Белаграінгандлю, апошні рэалізуе казеін за мяжой і купляе там пэўны «крытычны імпарт» (апошнім часам — знакамітыя кормаўборачныя камбайны «Ягуар»), накіроўвае гэты імпарт у пэўныя гаспадаркі (калгас, саўгас) раёна, вобласці, пасля чаго гаспадаркі разлічваюцца з масларобчым заводам. Прычым тут жа варта асабліва падкрэсліць: разлічваюцца, вядома ж, не валютай, а беларускімі рублямі зыходзячы з курса Нацыянальнага банка. Карацей, за эквівалентную колькасць прададзенага казеіну завод мог бы мець, каб ён гэта рабіў непасрэдна сам, па прамому дагавору, — у 3-4 разы больш. У каго ж застаецца розніца? Вядома, у гаспадарках (дакладней, для іх тыя ж камбайны абыходзяцца намнога таннеі), ды пэўныя працэнты асядаюць у пасрэднікаў, якія ўдзельнічаюць у гэтых аперацыях. І ўсё ж чаму завод сам не займаецца рэалізацыяй сваёй прадукцыі, у тым ліку і экспартам? Такі парадак.

Прынамсі, мэтавая ўстаноўка падобнай схемы — зразумелая. Як зазначылі на карэліцкім заводзе, інакш гаспадаркам ні пасеяць, ні зжаць. Сёлета з дапамогай гэтай схемы і, зразумела, самога завода для гаспадарак раёна набыты два «Ягуары», два «Кіраўцы», 1350 тон аміячнай салетры і 280 тон амафосу (мінеральных угнаенняў набыта 70—80 працэнтаў ад патрэбнасцяў гаспадарак), паліўна-змазачныя матэрыялы на суму каля 20 мільярдаў рублёў, а таксама кармавыя дабаўкі для жывёлы, запчасткі...

Варта прызнаць: для існавання падобных схем (яны прыдуманы не толькі для карэліцкага завода), ці дакладней — для жорсткага цэнавага рэгулявання і размеркавання з боку дзяржавы — ёсць цалкам лагічнае абгрунтаванне: перапрацоўшчыкі, як вядома, самі ж закупляюць сыравіну не па свабодных цэнах, а па вызначаных дзяржавай закупачных цэнах, якія яўна заніжаны і ўжо не апраўдваюць вядзенне сельскагаспадарчай вытворчасці. Увогуле ж, як сельскія гаспадаркі, так і перапрацоўшчыкі, па сутнасці, расплачваюцца за сацыяльна значныя віды прадукцыі, ці дакладней — існаванне на гэтыя віды адпаведных рознічных цэн. Карацей кажучы, пры дапамозе падобных схем яўна робіцца спроба раздзяліць адпаведныя ж цяжкасці гаспадарак з перапрацоўчымі прадпрыемствамі, а то і ўвогуле перакласці гэтыя цяжкасці на апошніх. Але ж падобным чынам падрываецца і дзеяздольнасць перапрацоўшчыкаў. На тым жа карэліцкім заводзе, як адзначалася ўжо, абсталяванне далёка не першай свежасці, і толькі, відаць, дзякуючы звышнамаганням калектыву падтрымліваецца ў больш-менш прымальным стане; дзякуючы намаганням кіраўніцтва па «выбіванню» сродкаў (гэта пры тым, што калектыў зарабляе сродкі сам, і немалыя) з'яўляецца нешта новае. Як той жа невялікі цэх... Тым часам на заводзе хацелі б мець сучасныя лініі, якія, скажам, разлівалі б прадукцыю ў сучасныя ж тэтрапакеты, хацелі б мець новыя тэхналогіі, якія забяспечвалі б наступнае захоўванне выробленай прадукцыі на працягу некалькіх месяцаў (накшталт імпартнага германскага малака), а не толькі некалькіх дзён... У гэтай сувязі і цалкам зразумелае імкненне калектыву асвоіць выпуск такой прадукцыі, якой можна было б распараджацца больш-менш самастойна, з якой можна было б ухіліцца ад размеркавання па ўсякіх схемах.

Аб спрэчнасці падобных схем даволі красамоўна сведчыць і наступны факт, пра які расказалі на заводзе ж. У раёне ёсць дзве моцныя гаспадаркі, і яны адмаўляюцца ад таго, каб, напрыклад, мінеральныя ўгнаенні ішлі да іх па такой вось бартэрнай схеме, адмаўляюцца плаціць за іх масларобa-

● У новым цэху.



**Нягледзячы на тое, што ўказ прэзідэнта і загад міністра абароны аб чарговым прызыве на тэрміновую вайсковую службу з'явіўся некалькі тыдняў таму, усе ваенныя камісарыяты Беларусі пачнуць працаваць у актыўным рэжыме толькі з пачаткам лістапада. Менавіта з наступнага месяца прыступяць да працы прызыўныя камісіі. Як ужо паведамлялася, гэтай восенню і зімой плануецца накіраваць у войска каля 18 тысяч юнакоў. Першая адправка адбудзецца 7—15 снежня, апошняя — 31 студзеня наступнага года.**

# «ЗАКАСІЦЬ» СТАНОВІЦЦА СКЛАДАНЕЙ

## Чарговая прызыўная кампанія мае некалькі асаблівасцяў

ЗНАЧНАЯ ЧАСТКА навабранцаў будзе накіравана ў вайсковыя часці ваенкаматамі Мінскай вобласці і сталіцы Беларусі: у адпаведнасці з колькасцю насельніцтва і разнарадкай, якую прадставіць Міністэрства абароны. А пакуль апошняя адсутнічае, канкрэтныя лічбы начальнік зборнага пункта Мінскай вобласці палкоўнік Міхаіл Канстанцінаў назваць не можа. Але ён запэўнівае, што мяркуецца прызваць каля 3—3,5 тысячы юнакоў. Усяго ж наМіншчыне на медыцынскую камісію ў бліжэйшы час будуць выкліканы каля 11.000 хлопцаў прызыўнога ўзросту. Як вядома, у гэтую колькасць не трапляюць студэнты і іншыя катэгорыі прызыўнікоў, якія карыстаюцца правам адтэрміноўкі.

Для параўнання неабходна заўважыць, што вясной прызыўнымі камісіямі Мінскай вобласці і Мінска выклікалася 27.000 чалавек, павесткі аб неабходнасці з'явіцца на медкамісію атрымалі амаль 18.000. З іх прызваны ў войска былі 8.336 юнакоў, а адпраўлены — толькі 4.156. Сезонны дысбаланс відавочны. Як сцвярджае М. Канстанцінаў, вясной заўсёды назіраецца лішак рэсурсаў, таму ваенкаматы маюць магчымасць зрабіць якасны адбор сярод тых, хто прызнаны годным да службы ў арміі. Але зусім адваротная карціна назіраецца восенню: некаторыя ваенкаматы пакутуюць ад няхваткі прызыўнікоў, па прычыне чаго выкананне планавых паказчыкаў робіцца іншы раз праблематычнай задачай. Сітуацыя тлумачыцца проста: вясной значная частка юнакоў, якія заканчваюць навучальныя ўстановы, страчваюць права адтэрміноўкі і падлягаюць прызыву, а восенню многія атрымліваюць гэтае права, паступіўшы вучыцца. Такім чынам, сезонныя колькасныя перапады з'яўляюцца ўстойлівай асаблівасцю прызыўных кампаній апошніх гадоў.

Але нягледзячы на тое, што палкоўнік Канстанцінаў сцвярджае, нібыта дэфіцыт адчуецца і гэтай восенню, падчас цяперашняга прызыву падобнае палажэнне можа заўважна змяніцца. Справа ў тым, што прызыўныя і медыцынскія камісіі ўпершыню будуць працаваць па новаму медыцынскаму загаду, які падпісаны 4 жніўня 1998 года міністрам абароны па ўзгадненню з міністрам аховы здароўя. У адпаведнасці з новым загадам скасаваны шэраг захворванняў, з наяўнасцю якіх раней можна было атрымаць адтэрміноўку ці наогул камісавацца.

Вось як каменціруе з'яўленне гэтага дакумента М. Канстанцінаў: «Медыцынскі загад падчас станаўлення ўласных узброеных сіл беларускай дзяржавы быў у прамым сэнсе скапіраваны з аналагічнага загадаў СССР. А той прадугледжваў службу ва ўмовах Крайняй Поўначы, Далёкага Усходу, Сярэдняй Азіі, Закаўказзя, дзе існуюць своеасаблівыя кліматычныя ўмовы. Патрабаванні, асабліва для пагранічных і паветрана-дэсантных войскаў, былі выключна высокімі. Аднак, пагадзіцеся, пагранічную вахту ў гарах Закаўказзя нельга параўнаць са службай на беларуска-польскай мяжы. Цяпер нашы вайскоўцы нідзе за межамі Беларусі не служаць. Таму загад, па якому мы працавалі больш за пяць гадоў, па сутнасці даўно не адпавядае патрабаванням жыцця. І нарэшце, сёлета адбылася своеасаблівая рэвізія яго нормаў, у выніку чаго атрымаўся новы загад. У ім адменены многія ранейшыя параметры, якія перашкаджалі юнакам служыць у войску. Напрыклад, там ужо не ўлічваюцца такія хваробы, як плоскаступнёвасць, скаліёзы пазваночніка, некаторыя тэрапеўтычныя захворванні, — той жа праляпс мітральнага клапана сэрца, які можна было знайсці ў кожнага другога прызыўніка, які перад камісіяй выпіў кавы і прабег туды-сюды на пяты паверх. Таму, я думаю, цяперашні загад адпавядае рэаліям жыцця, зараз ён стаў больш аб'ектыўным».

Словам, М. Канстанцінаў лічыць, што цяпер у арміі разабраліся, з якімі хваробамі можна ісці ў войска, а з якімі нельга. Ён таксама не хавае таго, што часта хваробы і не бывае на справе. «Зараз многім юнакам, якія «касілі» ад арміі, будзе складана пераканаць медыцынскую камісію ва ўласнай непрыгоднасці, — кажа ён. — Ім прыйдзецца служыць у часцях, якія адпавядаюць стану іх здароўя». Хаця, з другога боку, начальнік зборнага пункта шчыра прызнае, што сённяшні стан здароўя прызыўнікоў як ніколі нізкі. Падчас веснавой прызыўной кампаніі ў Мінскай вобласці каля 50 працэнтаў юнакоў былі прызнаны непрыгоднымі, а ў Мінску — больш як палова прызыўнікоў мелі дрэннае здароўе.

Ваенныя спадзяюцца, што за кошт новага загада працэнт годных да вайсковай службы павялічыцца. Ды, з другога боку, у арміі таксама добра ўсведамляюць, што годны — яшчэ не азначае здаровы. «Іншы раз слёзы на вочы наварочваюцца, калі бачыш, якія юнакі прыходзяць на камісію — хлопчыкі, схуднелыя, хілыя, многім не хапае вагі, у некаторых відавочная адсталасць у агульным развіцці».

Адзінае, што шчыра радуе ваенных, дык гэта зніжэнне колькасці «бегуноў» і рост аўтарытэту і папулярнасці арміі сярод моладзі. Калі ў пачатку 90-х у Мінску і вобласці ўхіляліся ад службы каля тысячы чалавек у прызыў, то вясной гэтага года толькі 149 чалавек не з'явіліся ў ваенкаматы і кінуліся на ўцёкі, што, дарэчы, амаль удвая менш, чым мінулагодняй вясной. Але паступова амаль палова «бегуноў» знаходзіцца і пасля адпаведнага пакарання, часцей адміністрацыйнага штрафу, накіроўваецца ў войска. Не апошняя роля ў гэтым належыць міліцыі, з якой вайскоўцы зараз наладзілі цеснае супрацоўніцтва. Напрыклад, у сталіцы са 113 «бегуноў» міліцыя выявіла 52 чалавекі. Астатнія, як іх называе Канстанцінаў, «прафесійныя бегуны», ухіляюцца ўжо па тры-чатыры гады, іх месцазнаходжанне высветліць не ўдаецца.

«Адбыўся нейкі зрух у свядомасці моладзі, — разважае Міхаіл Канстанцінаў. — Параўноўваючы зараз адносіны да арміі з тымі, што былі шэсць гадоў таму, калі я пачынаў працаваць на сённяшняй пасадзе, бачыш, што яны сталі больш станоўчымі і прыязнымі. Зразумела, я не магу сказаць, што ўсе юнакі ідуць служыць з ахвотай (ёсць абыякавыя адносіны), але больш як палова ідуць з пачуццём доўгу і адказнасці. І колькасць апошніх з кожным годам павялічваецца».

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*Актуальны каментарый*

# У ЖЫЦЦІ ЛЮДЗЕЙ АДБУДУЦЦА РЭАЛЬНЫЯ ЗМЕНЫ

**Важнейшай падзеяй у рамках Саюза Беларусі і Расіі сталі парламенцкія слуханні аб пераўтварэнні Парламенцкага сходу «саюза дзвюх» у парламент Саюза, які выбіраецца непасрэдна грамадзянамі дзвюх дзяржаў. У абмеркаванні прымалі ўдзел не толькі дэпутаты, але і вучоныя, палітыкі, эканамісты, юрысты. Якія ж вынікі слуханняў? Ці ёсць заканадаўчая перспектыва ў ПС? Як гэта адаб'ецца на лёсах дзвюх дзяржаў і, значыць, лёсах іх грамадзян? Адказаць на гэтыя пытанні і пракаменціраваць іншыя аспекты слуханняў па просьбе карэспандэнта БЕЛТА пагадзіўся намеснік старшыні Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі Сяргей Бабурын.**

Паводле слоў Сяргея Бабурына, было выказана шмат розных пунктаў гледжання, але ў цэлым усе ўдзельнікі сышліся на думцы, што такое пераўтварэнне, прадугледжанае Статутам Саюза Беларусі і Расіі, неабходна, што палітычныя ўмовы для гэтага на сённяшні дзень у Расіі, безумоўна, спрыяльныя. Сітуацыя істотна змянілася ў параўнанні з той, якая была пры падпісанні Дагавора аб стварэнні Саюза Беларусі і Расіі ў 1997 годзе. У прыватнасці, у Расіі няма палітычных сіл, якія выступалі б супраць якіх-небудзь прынцыповых пазіцый. Ёсць розныя прапановы, што датычаць прыватных пытанняў механізма трансфармацыі, паўнамоцтваў, колькаснага саставу і гэтак далей. Але прынцыповая падтрымка пераўтварэнню ПС у заканадаўчы і прадстаўнічы орган «саюза дзвюх» была поўная. Многае, на яго думку, вызначыцца на маючай адбыцца сесіі Парламенцкага сходу. А далейшы лёс будзе залежаць ужо ад прэзідэнтаў Беларусі і Расіі, за якімі прыняцце палітычных рашэнняў. Калі яны праявяць палітычную волю і дагавор будзе падпісаны, то працэс можа прайсці ў самыя сціслыя тэрміны, лічыць Сяргей Бабурын.

На слуханнях было выказана некалькі прапаноў. Прапаноўвалася, у прыватнасці, сумясціць выбары ў саюзны парламент з выбарамі ў Дзяржаўную Думу Расійскай Федэрацыі (па канстытуцыйных тэрмінах — гэта снежань 1999 года) і з выбарамі мясцовых органаў улады ў Беларусі, якія таксама адбудуцца ў наступным годзе. Былі прапановы ўсё ажыццявіць у больш раннія тэрміны. Але гэта залежыць цяпер ад палітычных рашэнняў прэзідэнтаў дзвюх краін.

Гаворачы аб тым, як выбары саюзнага парламента адаб'юцца на палітычным жыцці, Сяргей Бабурын сказаў, што змяніцца можа вельмі і вельмі многае. У прыватнасці, палітычны клімат, эканамічнае жыццё. «Мы з'яўляемся дзяржавамі, якія маюць патрэбу адна ў адной. Нашы народы заўсёды былі разам, прынамсі, некалькі апошніх стагоддзяў. Нашы эканомікі настолькі адна з адной узаемазвязаны, што не можа быць ніякіх сумненняў у тым, што дзяржаўнае ўз'яднанне дасць магутны штуршок іх развіццю», — сказаў Бабурын.

Працягваючы гэту тэму, ён адзначыў, што існуючая сітуацыя парадаксальная. Кіраўнік беларускай дзяржавы вымушаны наведваць асобныя рэгіёны Расіі і з кіраўнікамі адміністрацый, прадстаўнікамі прамысловых колаў заключаць дагаворы аб эканамічным супрацоўніцтве. А яшчэ ўчора мы былі адзінай дзяржавай і ў нас была скаардынаваная эканамічная палітыка.

Разбурыўшы гэта, мы панеслі вялікія страты. Таму змены адбудуцца не толькі ў палітычным жыцці. Самае галоўнае, што змены да лепшага адбудуцца ў рэальным жыцці людзей, кожнага канкрэтнага чалавека. Дзеля гэтага мы ўсё гэта і робім, адзначыў ён.

Не менш важным лічыць Сяргей Бабурын і тое, што ўзрасце пачуццё бяспекі. «Мы ўжо назіралі, як Захад паводзіў сябе ў адносінах да Беларусі, калі пад надуманымі прычынымі вышэйшым службовым асобам рэспублікі пачалі адмаўляць у праве ўезду ў суседнія дзяржавы.

Мы бачым, што наша дзяржаўная бяспека, бяспека кожнага асобнага чалавека знаходзіцца пад пагрозай. Нядаўна я вярнуўся з Югаславіі, дзе быў на чале парламенцкай дэлегацыі Дзяржаўнай Думы ў сувязі з канфліктам вакол Косава. Мы бачым, як самым беспардонным чынам НАТО паводзіць сябе ў адносінах да Югаславіі. Карацей кажучы, трэба думаць не толькі аб прыватных пытаннях, але і пра агульную нашу бяспеку, маючы на ўвазе ўсе яе аспекты».

Сяргей Бабурын выказаў упэўненасць, што трансфармацыя Парламенцкага сходу ў парламент Саюза як этап дзяржаўнага аб'яднання — гэта шлях да забеспячэння нашай бяспекі, бяспекі дзяржаў і кожнага асобнага грамадзяніна.

**БЕЛТА.**

# ...ПЛЮС «ДАЛАРЫЗАЦЫЯ» ЎСЁЙ КРАІНЫ

## Беларускаму рублю не давярае нават айчынны гандаль

**На працягу апошняга месяца Міністэрства гандлю настойліва дамагалася і дамаглося ад урада дазволу на адкрыццё ў буйнейшых магазінах Мінска і абласных цэнтраў валютных секцый і аддзелаў. Чым гэта выклікана і да якіх наступстваў можа прывесці?**

Рознічны гандаль за валюту — з'ява, добра знаёмая савецкім людзям па колішняй сетцы магазінаў «Бярозка». Гэтыя «Бярозкі» ў свой час выраслі па ўсёй краіне Саветаў таксама не ад добрага жыцця. Яны сведчылі, з аднаго боку, пра рэальны стан спажывецкага рынку ў краіне; з другога — пра магчымасці і вагу савецкага рубля; з трэцяга — пра дэфіцыт у СССР свабодна канверсоўнай валюты. Нямногія шчаслівчыкі з ліку савецкіх людзей, якія маглі карыстацца паслугамі «Бярозкі» (г. зн. якія мелі валюту або чэкі «Знешпасылгандлю»), валодалі магчымасцю без усялякай чаргі набываць якасныя імпартныя тавары, пра якія астатняя частка насельніцтва магла толькі марыць.

Пасля таго, як «драўляны» савецкі рубель адышоў у нябыт, дзяржава адмовілася ад манаполіі на знешні гандаль, а валоданне доларамі перастала лічыцца крымінальным злачынствам — гандаль за валюту на першым часе атрымаў другое дыханне. У пачатку 90-х гадоў валютныя аддзелы і секцыі адкрываліся ў масавых маштабах. Адбывалася гэта зноў жа на фоне эканамічных і фінансавых катаклізмаў: спажывецкі рынак быў паралізаваны; інфляцыя перарасла ў гіперінфляцыю, маладая беларуская дзяржава не мела ніякіх золатавалютных рэзерваў для падтрымання толькі што народжанага «зайца».

Аднак гэты перыяд працягваўся нядоўга. Пасля таго, як была пастаўлена мэта ўтаймаваць інфляцыю і стабілізаваць валютны курс, долар з афіцыйнага рознічнага гандлю вельмі хутка быў выцеснены. У існаванні валютных секцый на той час (а гэта былі 1994—1995 гады) не стала сэнсу: беларускія рублі магчыма было свабодна канверсаваць ці то на біржы, ці ў любым абменным пункце; па асартыменту тавараў валютныя аддзелы не адрозніваліся (і на той час ужо не маглі адрознівацца) ад звычайных магазінаў. Апроч таго, дзяржава, якая клапоціцца пра ўстойлівасць і аўтарытэт нацыянальнай валюты, не павінна якім-небудзь чынам звужаць на сваёй тэрыторыі сферу прымянення гэтай валюты на карысць замежнай грашовай адзінкі (нават калі гэта амерыканскі долар ці нямецкая марка).

Такі парадак, дарэчы, існуе ў любой краіне са стабільнай фінансавай сістэмай. У Іспаніі, Францыі ці Італіі вы нідзе не зможаце набыць тавар за долары: папярэдне давядзецца памяняць іх на песеты, франкі або ліры, заплаціўшы банку за паслугу немалыя камісійныя. Гэтыя камісійныя зборы — істотная частка даходаў нацыянальных банкаўскіх сістэм. Адначасова такі парадак стымулюе грамадзян зарабляць і захоўваць зберажэнні менавіта ў нацыянальнай валюце, бо без яе ніяк не абыдзешся, а на канверсацыі непазбежна губляеш істотную частку сумы.

Вяртанне валютнага рознічнага гандлю ў сённяшніх беларускіх умовах — гэта сведчанне глыбокага заняпаду айчыннай фінансавай сістэмы і надзвычайнай нестабільнасці нацыянальнай валюты. Для насельніцтва гэта можа служыць нядобрым знакам: калі дзяржава ідзе на такі крок, па сутнасці распісваючыся ў няздольнасці забяспечыць рэальную канверсоўнасць беларускага рубля, — значыць на стабільнасць у блізкай будучыні разлічваць не даводзіцца.

Зрэшты, давер да нацыянальнай грашовай адзінкі і без таго падарваны. Нямнога сёння знойдзецца ў краіне дзівакоў, якія б наважыліся трымаць свае накапленні ў беларускіх рублях, тым больш на ўмовах, якія прапануюць беларускія банкі, — калі банкаўскі працэнт ніжэйшы за ўзровень інфляцыі. Але і разлік дзяржавы на тое, што, адкрыўшы валютныя магазіны, удасца істотна папоўніць валютныя запасы краіны, можа не апраўдацца.

Па-першае, валютнае змесціва «панчох», у якіх нібыта трымаюць беларусы свае долары і маркі, мяркуючы па ўсім, афіцыйнымі асобамі яўна перабольшваецца. Калі паўгода таму Нацыянальны банк дабіваўся падпісання прэзідэнцкага дэкрэта адносна гарантый захаванасці валютных укладаў грамадзян, размова ішла пра некалькі мільярдаў долараў, якія беларускія грамадзяне нібыта апасаюцца давяраць банкам. Адпаведны дэкрэт з'явіўся — але ніякія мільярды ў банкі не пацяклі: валютныя ўклады грамадзян павялічыліся ў лепшым выпадку на сотню-другую мільёнаў.

Той жа вынік можна атрымаць, увёўшы рознічны гандаль за валюту. Долараў на руках у беларускага насельніцтва мала — і імі нашы суграмадзяне даражаць як адзіным надзейным сродкам накаплення. За апошні час крыніц, з якіх у кашальках беларусаў з'яўлялася валюта, стала значна менш. Даўно страцілі сэнс чаўночныя рэйсы на польскія базары з няхітрымі наборамі таннага беларускага шырспажыву; стаў рызыкоўным і значна менш выгадным гандаль беларускім харчаваннем на расійскіх рынках. Даходы большасці насельніцтва ўнутры краіны ў пераліку на валюту за апошнія два месяцы скараціліся ў 2-3 разы. Сёння вельмі нямнога тых, хто мае магчымасць частку зарплаты пераводзіць у валюту. Па-першае, гэтай зарплаты ў большасці насельніцтва не хапае на самыя надзённыя патрэбы; па-другое, вельмі праблематычны сам працэс абмену: легальным шляхам па рыначнаму курсу абмен валюты сёння ў Беларусі немагчымы.

У гэтых умовах гандляваць на валюту шырспажывам (у тым ліку айчынным) можна толькі пры адной умове: калі цэны на гэтыя тавары будуць нізкімі — прынамсі, не вышэй, чым на рэчавых рынках. Калі ж дзяржава ўключыць у цэны 30-працэнтную гандлёвую надбаўку, ды яшчэ прымусіць прадаваць па курсу Нацбанка частку валютнай выручкі — уся задума асуджана на правал: пакупнікоў у валютных аддзелах не будзе.

Паралельнае хаджэнне дзвюх грашовых адзінак — не наша вынаходка. Гэтым жа метадам для прыцягнення цвёрдай валюты карыстаюцца многія слабаразвітыя краіны. Тры гады таму мне давялося пабываць на Кубе, дзе ў той час такая сістэма гандлю была шырока распаўсюджана. Звычайная карціна: у валютным магазіне па цалкам прымальнай (для заходнееўрапейца ці амерыканца) цане можна набыць шырокі асартымент тавараў; побач, у магазіне, дзе гандлююць за кубінскія песа, абсалютна пустыя паліцы (за выключэннем хіба што нейкіх танных цыгарэт у шэрых пачках).

Пры гэтым сярэдняя зарплата кубінца на той час складала 2-3 долары ў месяц. А картачная сістэма размеркавання набыла ўсеагульны характар: без адпаведнай карткі кубінец не мог набыць нават шорты ці майку (не кажучы ўжо пра харчаванне).

Некаторыя лацінаамерыканскія краіны, страціўшы надзею адолець інфляцыю, увогуле ўнутры краіны цалкам перайшлі на амерыканскія долары. Частку суверэнітэту яны гэтым, безумоўна, ушчамілі, затое пазбавілі чыноўнікаў магчымасці вырашаць эканамічныя праблемы за кошт друкавання пустых грошай і аблегчылі жыццё насельніцтву.

Ва Усходняй Еўропе пасля распаду савецкага блока быў папулярны іншы шлях — прывязка нацыянальнай грашовай адзінкі да адной з цвёрдых валют — пераважна да долара або нямецкай маркі. Беларусь — бадай адзіная з новых незалежных дзяржаў, якая прывязала сваю валюту да нестабільнага расійскага рубля. Так наша валюта, прывязаная, разам з гэтым рублём і рухнула ў бездань фінансавага крызісу, абясцэніўшыся адразу на 300 працэнтаў.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# «ЛАЗОВЫЯ КАРУНКІ»

У мінулую суботу ў Мінску адбылося 1-е Рэспубліканскае свята-конкурс лозапляцення, якое ладзілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Беларускі Саюз майстроў народнай творчасці.

Кошыкі і карзінкі розных памераў, куфэркі, збаны і збаночкі, вазачкі, падносы, пано і нават цэлыя хатнія наборы — канапа, стол, табурэткі, крэсла-«качалка» — усе гэтыя рэчы, вырабленыя з прыроднага матэрыялу, упрыгожылі ў гэты дзень фае Рэспубліканскага палаца прафсаюзаў. Гэта прывезлі на свята-конкурс свае вырабы прадстаўнікі ўсіх абласцей. Кожная вобласць тут была прадстаўлена 5-6 майстрамі. На свята-конкурс былі запрошаны некалькі ўжо сталых майстроў лозапляцення, членаў Саюза майстроў. Усе яны ўдзельнічалі ў конкурсе па розных намінацыях: на хуткасць пляцення, на якасць, аб'ём работы. Спрытна працавалі рукі народных умельцаў. На вачах прысутных той гнуткі дубчык лазы ў залатых руках майстроў ператвараўся ў твор мастацтва.

Ацэньвала работы, прывезеныя на свята, а таксама зробленыя ў час конкурсу, ганаровае журы — у асноўным з членаў Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці.

У той жа дзень былі падведзены вынікі свята-конкурсу, а пераможцы атрымалі прызы, грашовыя прэміі і ганаровыя граматы, а шчаслівыя наведвальнікі змаглі набыць тое, што ім больш прыйшлося даспадобы.

Было вельмі прыемна бачыць, што сярод народных умельцаў была пераважна моладзь. Значыць ёсць у маладых цікавасць да народнай творчасці і жаданне працягваць даўнія народныя традыцыі.

**Валянціна ШПІЛЕЎСКАЯ.**






НА ЗДЫМКАХ: за работай умельцаў уважліва сачыла кампетэнтнае журы на чале з доктарам мастацтвазнаўства, старшынёй Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці **Яўгенам Сахутам** (першы злева); «Лапці вышэйшага гатунку», — запэўнівае іх аўтар — рабочы са Смілавіч **Віктар Шатэрнік;** самая маладая ўдзельніца свята **Наталля Саланенка** — навучэнка Лепельскага гідрамеліярацыйнага тэхнікума.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## «ХАРЧОВЫ КОШЫК» ПАЦЯЖЭЎ НА ЧВЭРЦЬ. ЗА ДВА МЕСЯЦЫ

**Як паказала чарговае даследаванне, праведзенае сацыяльна-эканамічным аддзелам Федэрацыі прафсаюзаў, з 20 верасня па 20 кастрычніка кошт «кошык» з 25 асноўных прадуктаў харчавання па нормах мінімальнага спажывецкага бюджэту павялічыўся на 107,5 працэнта.**

Такім чынам, усяго з пачатку нестабільнасці на фінансавых рынках СНД (з другой паловы жніўня) цэны на прадукты харчавання першай неабходнасці ўзраслі ў Беларусі прыкладна на чвэрць.

Паводле даных прафсаюзаў, зараз у сярэднім па краіне дзяржгандаль прапануе пакупнікам кілаграм жытняга хлеба па 14,1 тыс., хлеба пшанічнага — па 24,7 , макаронных вырабаў — па 54,6 , круп — па 66,7 , бульбы — па 12,6 , ялавічыны — па 136,4 , свініны — па 162,9 , вараных каўбас — па 152,7, малака — па 9,8 , масла — па 130,9, алею — па 206, цукру — па 46,4 тысячы рублёў. Як вынік, у цэлым па Беларусі «харчовы кошык» ацэньваецца ў 1 млн. 986,5 тысячы рублёў. Самым дарагім ён быў ў Брэсце (2 млн. 240,3 тысячы), Гомелі (2 млн. 101,8 тысячы) і Мінску (2 млн. 83,5 тысячы). Параўнальна танна прадукты харчавання каштавалі ў Магілёве (1 млн. 987,4 тысячы), Віцебску (1 млн. 972,7 тысячы) і Гродне (1 млн. 859,5 тысячы рублёў).

**Сяргей ГРЫБ.**

## АДАМУ МІЦКЕВІЧУ — УДЗЯЧНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ

**25 кастрычніка ў Гродне каля будынка Саюза палякаў на Беларусі адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка-бюста вялікаму паэту, 200-годдзе з дня нараджэння якога сёлета адзначае свет. «Адаму Міцкевічу — удзячныя суайчыннікі» — пазначана на помніку на беларускай і польскай мовах.**

Аўтарамі праекта з'яўляюцца скульптары Андрэй Засніцкі і архітэктар Юрый Казакоў з Мінска. Бюст выраблены ў Варшаве на прадпрыемстве «Воля». Фінансавы бок справы (бюст каштуе каля 6 тысяч долараў) забяспечылі спартыўны клуб «Алімпія», мэрыя Варшавы, а таксама дабрачынныя сродкі, якія збіраліся ў Польшчы і Беларусі. Свае рукі да добрай справы (пастамент, добраўпарадкаванне тэрыторыі) прыклалі работнікі гродзенскага трэста «Будрамонт» і мясцовага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Не ўсё спачатку было гладка, але ў рэшце рэшт гэта — прыклад супрацоўніцтва паміж мясцовымі ўладамі і Саюзам палякаў на Беларусі.

Ва ўрачыстай цырымоніі з беларускага боку ўдзельнічалі афіцыйныя асобы з аблвыканкама, Гродзенскага гарвыканкама і гарадскога Савета, з польскага — прадстаўнікі сойма, сената, міністэрства адукацыі, уладаў Варшавы і Беластоцкага ваяводства, польскія дыпламаты, якія працуюць у нашай краіне.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

***НА СВАЕ ВОЧЫ***

# СТВАРАЛЬНІКІ «ЦУДА» НЕ ПАДОБНЫЯ НА ЧАРАЎНІКОЎ

**(Працяг. Пачатак у № 211).**

Гэтыя «хатняй» вытворчасці аўтамабілі больш танныя, чым чыста імпартныя. Хаця багатыя тайбэйцы за цаной не стаяць і набываюць мілыя іх сэрцу прэстыжныя дарагія «мерседэсы», «BMW». Іх у Тайбэі сустракаеш літаральна на кожным кроку. Існуе тут і рынак патрыманых аўтамабіляў. Цэны на іх, па мясцовых мерках, вельмі нізкія: машына трох,-пяцігадовага «ўзросту», у добрым стане, з невялікім прабегам, натуральна, з кандыцыянерам, каштуе прыкладна тры тысячы долараў ЗША.

Пры афармленні здзелак тут не прынята ставіць подпіс Кожны дарослы тайванец мае сваю пячатку, якая выконвае функцыю асабістага подпісу. Жыхар Тайваня не распісваецца ў дзелавых, юрыдычных паперах, а ставіць сваю асабістую пячатку. Звычайна яна выпрабляецца з драўніны каштоўных парод, часам мармуру, дарагіх камянёў і беражліва захоўваецца ў маленькім футляры. Там жа побач знаходзіцца невялікі круглы, велічынёй са звычайны наручны гадзіннік, слоічак з чырвонай масцікай. Дакрананне пячаткай да яе, лёгкі націск — і на паперы з'яўляюцца адзін, два ці нават тры іерогліфы — у залежнасці ад даўжыні прозвішча.

На развітанне тайваньцы кожнаму журналісту падарылі па гэтаму набору. Друкаванае адлюстраванне майго прозвішча заняло аж чатыры іерогліфы.

Падобныя пячаткі, дарэчы, маюць усе іншаземцы, якія пастаянна ці часова працуюць і жывуць на Тайвані. Без яе — як без той вады: ні туды і ні сюды. Нават зробленыя грошы не выдадуць, пакуль іншаземец не адцісне ў ведамасці іерогліфы свайго прозвішча. Нельга атрымаць грошы і ў банку.

На першы погляд, гэткую пячатку зусім проста падрабіць. Але кожная пячатка носіць індывідуальны почырк вырабіўшага яе майстра, і вопытныя чыноўнікі, якія адказваюць, скажам, за выдачу грошай у банку, даволі хутка ўстанаўліваюць яе прыналежнасць.

Арыгінальны працяг у Тайбэі маюць звыклыя адносіны паміж прадаўцамі і пакупнікамі. Пасля набыцця ў краме нейкага тавару апошнія ў абавязковым парадку атрымліваюць невялічкі каляровы чэк. Кожны са сваім нумарам. Гэта сістэма называецца адзіным чэкам, і ім ахоплены ўсе прадпрыемствы гандлю незалежна ад іх памераў, за выключэннем вулічных вандроўных гандляроў. Іх усіх проста немагчыма ўлічыць і зарэгістраваць.

Тайбэйцы беражліва захоўваюць гэтыя чэкі, чакаюць, калі раз у два месяцы ў мясцовым друку з'явіцца пералік выйгрышных нумароў. Тады яны дастаюць усе свае назапашаныя чэкі (іх нярэдка збіраецца да сотні) і ўважліва звяраюць іх нумары з апублікаванымі ў газетах. Калі, напрыклад, супадуць тры апошнія лічбы, то выйгрыш складае 200 тайваньскіх долараў, ці 6 з нечым долараў ЗША. Гэта мінімальная сума. Калі пашанцуе, то можна атрымаць вялікія грошы — да 2.000.000 тайваньскіх долараў, ці прыблізна па сённяшняму курсу 62.500 долараў ЗША. Падобныя выпадкі вельмі рэдкія, але тайбэйцы не супраць і сціплых сум. Выйгрышныя чэкі без прамаруджвання «атаварваюцца» ўпаўнаважанымі на гэта дзяржавай банкамі.

Хаця Тайвань мае адзін з самых велізарных у свеце запасаў цвёрдай замежнай валюты (нядаўна гэта было 100 млрд. долараў ЗША, цяпер, кажуць, 84 млрд. долараў ЗША), у краіне адносіны да амерыканскай валюты спакойныя. Хаця азіяцкі фінансавы крызіс закрануў эканоміку Тайваня, у выніку чаго курс долара ЗША крыху вырас у адносінах да тайваньскага долара, аднак тут ніхто не кінуўся набываць валюту ЗША. Яе па- ранейшаму ў патрэбнай вам колькасці можна абмяняць у банках, прычым камісійныя за гэта з вас не возьмуць. Курс долара ЗША да валюты Тайваня практычна аднолькавы ва ўсіх банках і можа адрознівацца хіба што дзесятымі долямі.

Увогуле тайбэйцы давяраюць сваім банкам і захоўваюць там свае зберажэнні. Тут няма «чорнага» валютнага рынку.

Тайваньцы — вялікія аматары падарожнічаць. Турызм — наш нацыянальны від спорту, жартуюць на востраве. У Азіі можа хіба толькі японцы больш і часцей выязджаюць на адпачынак за мяжу. Звычайныя людзі — радавы служачы тэлефоннай кампаніі, школьны настаўнік маюць магчымасць наведаць далёкія Еўропу, Амерыку, не гаворачы пра суседнюю Аўстралію, краіны Паўднёва-Усходняй Азіі.

Здзіўляцца тут няма чаму, бо асноўная частка жыхароў Тайбэя — людзі забяспечаныя. Многія сем'і тут валодаюць нерухомасцю — кватэрамі, дамамі, маюць зямельныя ўчасткі. У нашым уяўленні гаротных і бедных на Тайвані, па назіраннях выхадцаў з краін былога СССР, якія тут жывуць не адзін год, адзінкі. Усе, хто хоча працаваць, тут маюць працу.

Звычайная служба па найму ў дзяржаўнай установе ці прыватнай фірме дазваляе кожнаму тайваньцу існаваць даволі бязбедна. Напрыклад, маладая дзяўчына, якую ўзялі ў офіс на працу ў якасці вольнанаёмнай на самую першую прыступку кар'еры, скажам, па нашаму сакратаром-машыністкай, атрымлівае ў месяц каля 1000 долараў ЗША. Потым, праз некалькі гадоў, у яе ёсць магчымасць здаць складаны кваліфікацыйны экзамен і назаўсёды перайсці ў катэгорыю кадравых дзяржаўных служачых і атрымліваць штомесяц у сярэднім 2-3 тысячы долараў ЗША, у залежнасці ад займаемай пасады. У Тайбэі, другім пасля Токіо па дарагоўлі горадзе Азіі, тым не менш, падобны заробак гарантуе забяспечанае жыццё да самай старасці.

Выхад на пенсію тут не ўспрымаецца як катастрофа і не ставіць чалавека на мяжу выжывання, а дзякуючы яе высокаму грашоваму зместу і сацыяльным ільготам пенсіянеры працягваюць жыць без асаблівых клопатаў і турбот.



**Тайбэйскі цэнтр міжнароднага гандлю.**

Таму не выпадкова многія тайбэйцы выбіраюць кар'еру дзяржаўнага служачага. Але далёка не ўсе. Нямала тых, для каго размеранае, няхай і сытае існаванне дзяржслужачага, — гэта вельмі сумна і мала. Ім недастаткова добраўпарадкаванай кватэры, недарагой японскай «Таёты», адпачынку на Філіпінах ці ў Інданезіі. Ім патрэбны ўтульны асабняк, шасцісоты «мерседэс» і многае-многае іншае, што з'яўляецца атрыбутам багатага і ўплывовага чалавека. І тады яны ідуць у бізнес. Шанцуе далёка не ўсім, але і тых, хто знайшоў сваю «нішу», нямала. Тут бізнес вядзецца ў цэлым у цывілізаваных формах, і прадпрымальны, энергічны, з галавой малады чалавек пры шчаслівым збегу абставінаў можа зарабіць вялікія грошы.

У апошнія гады на Тайвані з'явіліся іншаземныя рабочыя, пераважна філіпінцы і тайландцы. Выкарыстоўваюцца яны на цяжкіх работах у будаўніцтве, асобных галінах прамысловасці. Але гэты працэс знаходзіцца пад пільным кантролем, каб ні ў якім разе не пацярпелі інтарэсы карэннага насельніцтва.

Сучасныя тайваньскія сем'і невялікія — пераважна адзін, два дзіцяці. У адрозненне ад КНР, дзе вядзецца дзяржаўнае рэгуляванне колькасці дзяцей у сям'і, на Тайвані да гэтага прыйшлі без ціску і ўплыву ўладаў. Тут у адносінах да сям'і назіраюцца тыя ж тэндэнцыі, што і ў развітых еўрапейскіх краінах. Таму на востраве рознымі сацыяльнымі льготамі заахвочваецца павышэнне нараджальнасці. У цэлым для яго сённяшніх жыхароў характэрны позні шлюбы — на мяжы 30-гадовага ўзросту. Да гэтага часу большасць юнакоў і дзяўчат вельмі напружана вучацца спачатку ў школе, потым, калі пашчасціць, у вышэйшай навучальнай установе. Ва універсітэце чамусьці нагрузка меншая, чым у школе. Відаць, ідзе вузкая спецыялізацыя. Пасля заканчэння ВНУ нехта пачынае рабіць кар'еру, нехта працягвае вучобу ў магістратуры. І толькі, калі малады чалавек больш-менш трывала «стаў на ногі», ён абзаводзіцца сям'ёй.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

*(Працяг будзе).*

**...І прыйшла субота. Замест жонкі пайшоў на рынак ды ў крамы. Вярнуўшыся дамоў, з жалем пералічыў наяўнасць грошай на далейшае жыццё. І разгубіўся. Што рабіць? Фінансаў відавочна не хапае на самае неабходнае. І ў такім становішчы не адзін я. Пачуццё разгубленасці і трывогі не пакідае ні мяне, ні большасць знаёмых. Адсюль — стрэсы, адсюль — пагоршаны стан здароўя. А разабрацца ў сабе няпроста. Вось так і ўзнікла думка пагаварыць пра сённяшні складаны час з псіхолагам. Надзея ЦЫРКУН — кандыдат псіхалагічных навук, псіхатэрапеўт — вядомая жыхарам краіны па шматлікіх радыё- і тэлеперадачах. З ёю я і сустрэўся.**

*ГУТАРКІ ПРА ЖЫЦЦЁ*

# ПАЛЮБІ... СЯБЕ

*«Наша жыццё — гэта тое, што мы думаем пра яго»*
**Марк Аўрэлій.**

## Не верце ўсяму, што вам кажуць

*«Чалавек пакутуе не столькі ад таго, што адбываецца, колькі ад таго, як ён ацэньвае тое, што адбываецца».*
**Мішэль Мантэнь.**

**— Надзея Аляксандраўна, апошнім часам практычна ўсе гутаркі са знаёмымі круцяцца вакол павышэння цэн на тавары, наконт таго, як у гэтай сітуацыі жыць. Боязна заходзіць у краму ці на рынак. Ды і ў кашалёк заглядваць мала жадання. Як перамагчы ў сабе гэтую няўпэўненасць?**

— А навошта вы верыце ўсяму, што вам кажуць? Такія стэрэатыпныя пытанні і адказы пра будзённае жыццё падсвядома звязаны з культурнымі ўстаноўкамі, якія склаліся. Маўляў, нельга казаць, што жывеш добра, бо іначай сурочыш. Часта, калі чалавек так кажа, ён пустату свайго жыцця запаўняе пустой балбатнёй. Ёсць узровень, калі чалавек спрабуе асэнсаваць глабальныя рэчы. Ён, кіруючыся досведам, свой душэўны стан абагульняе. У сэнсе: усім кепска. Бо тут чалавек сутыкаецца са страчаным сэнсам жыцця. А ёсць група людзей, якая ўсё пералічанае вышэй падмацоўвае аўтарытэтнымі меркаваннямі. Той жа прачытанай кнігай ці пачутай канцэпцыяй. Таму, калі людзі нешта кажуць адзін аднаму, гэта можна і не слухаць.

**— ???**

— Так, бо не заўсёды гутарка ідзе пра сапраўдныя пачуцці. Вось вы кажаце: зайшлі ў магазін, там усё падаражэла. Хіба гэта ў першы раз? Мы да гэтага прывыклі.

**— Прабачце, Надзея Аляксандраўна, я ўжо раней чуў ваша меркаванне пра тое, што да крызісаў нашы людзі прывыклі здаўна. Болей таго, у пэўным сэнсе згодзен. Да нармальнага жыцця мы не прывыклі, бо не бачылі. А вось да дрэннага... Тым не меней, за апошнія гады і мы змяніліся пад уздзеяннем зменаў у грамадскім жыцці, пад уплывам тых жа сродкаў масавай інфармацыі.**

— Хто — мы?

**— Ну, няхай — я. Сапраўды, не будзем абагульняць.**

— Калі вы кажаце пра сябе — значыць у вас змяніліся жыццёвыя каштоўнасці. Адны зніклі, а замены ім не знайшлі. Час міжсезоння.

**— Разумею. Але ёсць і канкрэтныя рэчы: я бачыў учора такую сітуацыю, сёння — іншую. У той жа краме.**

— Значыць, сканцэнтравалі ўвагу на адным аб'екце, звузілі ўспрыманне свету. А за гэты час шмат адбылося змяненняў у іншай сферы, у іншых галінах жыцця. Увогуле, сэнс палітыкі можна параўнаць з фокуснікам, які трасе хустачкай перад вамі. На ёй вы сканцэнтравалі ўвагу, а ў гэты час нешта праслізнула міма. Альбо тыя ж зладзеі-кішэннікі. Адны адцягваюць увагу, а партнёр вам аблягчае кішэнь. Таму сэнс палітыкі — у майстэрстве стварэння аб'екта ўвагі. І, пакуль частка людзей у паніцы, нейкая падзея праходзіць незаўважнай. Тое, што адбылося некалькі тыдняў таму, рыхтавалася раней. Была ж такая спроба вясною, але не атрымалася.

**— А мо гэта было генеральнай рэпетыцыяй...**

— Ёсць такія энергічныя людзі, якія і ствараюць сітуацыі для іншых людзей. Таму трэба гэта разумець і ведаць пра вышэйшую каштоўнасць чалавечага жыцця.

**— Проста сказаць гучныя словы... Як настройвацца на такі лад, калі думкі круцяцца вакол аднаго?**

— Запытайце сябе: ці дам я каму скарыстацца маім панічным станам?

**— Так абстрактна?**

— Менавіта так. Бо, калі назваць некага канкрэтна, ваша ўвага пераключыцца на гэтага «ліхадзея». Проста зменіцца аб'ект. Чаму такую гістарычную ролю адыграў Сталін? Не пры жыцці, а пазней. Ён адцягнуў увагу на час свайго праўлення, а за гэтай заслонай рабіліся іншыя справы.



**— Накшталт таго, як у Расіі цяпер выкарыстоўваюць стан здароўя Ельцына...**

— Гэта адбываецца пастаянна. У бізнесе, напрыклад, выкарыстанне жаночай прыгажосці. Пастаўце гандляркай прыгажуню ці больш распранутую — і тавар набудуць хутчэй. Купляюць не яго, а дзяўчыну. Нават дзіця ўжо ведае, як размаўляць з мамай, татам ці бабуляю. А за гэтай шырмай чалавек робіць тое, што яму сапраўды патрэбна. І калі сродкі масавай інфармацыі пачынаюць паўтараць адну некім закладзеную ідэю, яны дазваляюць сабою маніпуляваць. І за так званы голас народа (а яго няма, бо «народ безмолвствует») прымаецца кімсьці навязаная воля.

## Гэта — не крызіс, гэта — шкадаванне аб няздзейсненых жаданнях

*«Рашэнне застаецца за чалавекам... Яно залежыць ад яго рашучасці быць самім сабою і для сябе».*
**Эрых Фром.**

**— Сродкі масавай інфармацыі — люстэрка грамадства. Але, сапраўды, часта хочацца пачуць ці прачытаць нешта «жыццесцвярджальнае».**

— Каго цяпер часта робяць прывабным для чытача? Маньякаў, забойцаў, адыёзных палітыкаў. Ствараюць негатыўны тып. Таксама для адцягнення ўвагі. Чалавек становіцца пагружаным у гэта. Альбо іншая сітуацыя. Вельмі папулярны сёння тып — няшчасная ахвяра. Мнагадзетныя маці, галодныя, прафесійныя жабракі, інваліды. Яны жывуць, вядома, вельмі кепска. Але ў пэўным сэнсе робіцца такое часта для таго, каб узняць сацыяльны статус грамадства. Бачыце, мы для гэтых людзей робім усё. Іх заганяюць у тып ахвяры для таго, каб адчуваць сябе гэткімі дабрадзеямі.

Чалавек заўсёды думае на пэўны час уперад. Нельга казаць пра крызіс сённяшняга жыцця. Гэта шкадаванне таго, што не здзейсніліся жаданні: нешта хацеў купіць, ды не набыў. Ці мог атрымаць больш, а выйшла менш.

**— Не пагаджуся з вамі. Я ведаю сем'і, дзе людзям сапраўды не хапае сродкаў на харчаванне. Пра што ім яшчэ думаць?**

— Возьмем дзве сям'і з аднолькавым узростам, колькасцю яе членаў, сацыяльным статусам. Жывуць па-рознаму. Адны будуць спрабаваць трымацца на плаву ўвесь час. Другія — не. Не трэба пра страх. У мяне ёсць знаёмая жанчына-інвалід, без ног. Яна мае дачу і сама працуе. Займаецца надомнай працай: упакоўвае ў каробкі панчохі, якія прывозяць «чаўнакі». Тысячамі. Працуе ў фірме па продажы кватэр. Вясёлая, жартаўніца.

**— Людзі розныя. Іншы чалавек не можа быць такім энергічным па прычыне свайго характару, ці з-за таго, што не падрыхтаваны да праблем папярэднім жыццём.**

— Калі яму выгадна быць слабым, чалавек будзе слабець. Калі павінен ратаваць некага — будзе гэта рабіць. Ён павінен вызначыцца.

**— Жорсткая схема. Ведаю людзей, якія не могуць з гэтай сітуацыі выйсці. Разводзяцца, співаюцца.**

— Значыць, хочуць задаволіць даўняе жаданне спіцца. Псіхатэрапеўтычная псіхалогія займаецца якраз тым, што дае чалавеку магчымасць сустрэцца са сваімі сапраўднымі жаданнямі. Тое, чаго ён на самай справе хоча, тое і адбываецца.

## Дзіця робіць выбар само

*«Божа, мы ведаем, хто мы ёсць, але не ведаем, кім можам быць».*
**Вільям Шэкспір.**

**— Калі зайшла такая гутарка, возьмем сям'ю і крызіс. Мужчына адчувае сваю непаўнацэннасць. Некалі мог зарабіць грошы, а цяпер — не. Злуе, пачынаюцца сваркі ў сям'і, бо і жонка не адчувае абароненасці. Усё гэта выліваецца на дзяцей.**

— Калі б да мяне прыйшоў пацыент і расказаў такую гісторыю, я б вылучыла некалькі гіпотэзаў. Любая знешняя сітуацыя выяўляе ўнутраную. Магчыма, у мужа з жонкаю і раней не складваліся адносіны, але камуфліраваліся вонкавым дабрабытам. Давайце падзяляць стымулы хаця б напалову: частка ідзе звонку, але частка і ад самога чалавека. Дзеці ж глядзяць на іх паводзіны і робяць выбар. Бацькі ўплываюць на лад іхніх думак, на будучыню.

**— Вы ж ведаеце класічнае: у кепскіх бацькоў бываюць добрыя дзеці, і наадварот.**

— Бываюць. Але возьмем сям'ю алкаголікаў. Дзіця вырасла, вядзе цвярозы лад жыцця. Ды, каб гэтага дасягаць, увесь час думае, што бацькі — алкаголікі. Увесь час гэту інфармацыю трымае ў галаве. Чалавек пастаянна робіць выбар: купіць не купіць, сказаць ці не.

**— Дзеці становяцца сведкамі няроўнасці. У суседа-равесніка ёсць і дача, і машына, а ў мяне не хапае на самае неабходнае.**

— Так было заўсёды. Адны жылі багацей, другія бядней. Галоўнае — якую мэту перад сабою паставіць дзіця. Адно скажа: «Ах, я бедны, няшчасны, не склалася ў мяне жыццё». Другі варыянт: «У мяне няма, дык забяру ў другога». А трэцяя група дзяцей — разумных — спрабуюць знайсці адказ: як дасягнуць дабрабыту. Ёсць спосабы сацыяльна вырашальныя, прэстыжныя і тыя, якія грамадствам асуджаюцца, але вядуць да хуткага абагачэння. Красці ці не? Вучыцца добра ці не? Гэтыя разважанні на кароткі прамежак часу. І калі прымаецца антысацыяльнае рашэнне, яно з часам дасць адмоўныя вынікі.

**— Дык што дзіцяці сказаць?**

— Няхай само вырашае.

**— Усё роўна ж задае пытанні. Параіць браць хабар? Ці ўсё ж казаць, каб было бедным, але сумленным?**

— Безумоўна, нельга раіць браць хабар у любым выпадку. І тады вы зможаце залажыць у ягонай душы каштоўнасці на доўгі прамежак жыцця. Растлумачце, што нават калі зоймешся сапраўдным бізнесам, сумленнасць заўсёды пойдзе табе толькі на карысць. Хаця сказаць, што такое рашэнне лёгкае, таксама нельга. Рухаючыся па сацыяльнай, грамадскай лесвіцы, трэба памятаць, што самая вялікая каштоўнасць — само жыццё. Але паўтараю: дзіця само будзе шукаць адказы на ўсе пытанні. Бацькі павінны рабіць учынкі. Каб не было ў іх некалькіх праўдаў.

**— А як быць жанчыне, калі і апрануцца хочацца, а магчымасці няма?**

— Людзі ўвесь час забываюць, што роўнасці няма. Па сваіх здольнасцях, унутраным свеце ўсе людзі розныя. Акрамя розуму, чалавеку патрэбны характар, воля. Тады ён можа дасягнуць сваіх мэтаў. А жанчыне таксама нельга спадзявацца толькі на мужа. Калі чалавек кажа, што яму нечага недадалі, няхай спачатку запытае сябе пра асабісты ўклад у агульную справу.

## Momento mori

*«Розум чалавека — у сабе, і сам ён здольны ператварыць пекла ў рай, і рай — у пекла».*
**Мільтан.**

**— У грамадстве не ўсе людзі прымаюць пануючую ўладу. Напрыклад, чалавек не прымае палітыку, але ўмешвацца не хоча ў яе ход. Які выхад для такога дыскамфорту?**

— Ён ужо зрабіў выбар. Ёсць пазіцыя і ёсць магчымасць з некім пагаварыць пра гэта. Нават пажаліцца.

**— А як быць таму, хто некалі меў і сродкі, і сацыяльны статус, ды пасля ўсё рухнула?**

— У кожнага чалавека бывае ўзлёт. І, каб утрымацца, патрэбен цёплы паток паветра... Пасля ўсё ідзе на спад.

**— І пра сябе вы так думаеце?**

— А як жа? Галоўнае тут — знайсці момант, калі паміраць. Калі табе ўсё роўна ці калі ты яшчэ можаш нешта зрабіць.

**— Настолькі сур'ёзна?**

— Безумоўна. Як у альпіністаў: цяжка ўзысці на гару, але яшчэ цяжэй спускацца. І цяпер нехта падыходзіць да сваёй вяршыні, і ён не ўспрымае, калі кажуць пра фінансавыя цяжкасці. А нехта ўжо спусціўся ўніз. Увогуле ідэальны варыянт — увесь час ісці ўгору і не дасягаць вяршыні. У кожнага свая жыццёвая прыступка, таму і свая ацэнка. Малады думае, як за 200 тысяч схадзіць на дыскатэку, а стары — як гэтую суму патраціць на харчы. Вось каб ён надумаў з бабуляю схадзіць на дыскатэку, меў бы іншае ўспрыманне жыцця. Сэнс не ў колькасці грошай, а ў патрэбах.

**— Бываюць моманты, падчас якіх усё валіцца з рук, нічога не хочаш рабіць, асцерагаешся і сябе, і іншых. Суцэльная абыякавасць да жыцця. Па шчырасці, у такія дні я дык сплю. А якія асноўныя спосабы выхаду са стрэсавай сітуацыі?**

— Вы слушна робіце. Спіце. Гэта добры спосаб. Ні ў якім разе нельга спадзявацца на алкаголь, курэнне ці наркотыкі. Вельмі неблагі спосаб — нармальныя сексуальныя адносіны. Але пры ўмове захавання ўсіх кампанентаў адносінаў, калі людзі блізкія духоўна. Рэкамендуецца займацца фізічнымі дзеяннямі. Гэта датычыць і фізкультуры, і фізічнай працы. Але нагрузкі павінны быць значнымі. Каб пот ліў. Можна і паплакаць, пагаварыць з кімнебудзь. Галоўнае ж, трэба зразумець, для чаго здымаецца стрэс.

**— Каб жыць.**

— Менавіта. Таму давайце жыць і цаніць жыццё.

**Гутарыў Міхал ТАЛОЧКА.**

*КРЫМІНАЛ*

## ПЕРАВЫХАВАЎ...

**У Лунінцы жылі два браты. Старэйшы, пенсіянер, моцна піў, і ў яго аднапакаёвай кватэры часта збіраліся калегі па чарцы. Малодшы брат стараўся перавыхаваць старэйшага, адвучыць ад гарэлкі.**

Толькі вось 14 кастрычніка пенсіянера знайшлі мёртвым у сваёй хаце. Падчас следства падазрэнне пала на малодшага брата, які імкнуўся наставіць старэйшага на сапраўдны шлях.

Калі браты сустрэліся ў чарговы раз і пачалі высвятляць адносіны, малодшы ўбачыў, што старэйшы слаба рэагуе на ўгаворы, схапіў камень, які ляжаў на квашанай капусце, і пачаў «перавыхоўваць» брата.

Судова-медыцынская экспертыза ўстанавіла, што ў пенсіянера не толькі разбіта галава, але і паламаныя рэбры, разарваныя печань і ныркі.

Здавалася б, згубіў чалавек над сабой кантроль, і вось — трагедыя. Толькі следчых прыцягнуў адзін нюанс.

Сваю кватэру забіты адпісаў малодшаму брату незадоўга да смерці. Цяпер і высвятляюць, якую ролю адыграў гэты факт у трагедыі.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

## ШВЕЙЦАРЦА ВЫРАТАВАЎ РЭМЕНЬ БЯСПЕКІ

**Дарожна-транспартнае здарэнне з ахвярамі адбылося на трасе Мінск—Магілёў у раёне вёскі Нежкава Бялыніцкага раёна.**

Пенсіянер з Магілёва на аўтамабілі «Фольксваген-Пасат» выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з «Жыгулямі», якія належалі магілёўскаму АП «Стужка». 29-гадовы вадзіцель і адзін з пасажыраў «Жыгулёў» — 40-гадовы жыхар Масквы, прадстаўнік швейцарскай фірмы «Якаб Мюлер», з якой супрацоўнічае «Стужка», загінулі на месцы. Пенсіянер і яшчэ адзін прадстаўнік фірмы «Якаб Мюлер», грамадзянін Швейцарыі Ханс-Пітэр Мюлер шпіталізаваны ў абласную бальніцу.

Спецыялісты сцвярджаюць, што жыццё спадара Мюлера выратаваў рэмень бяспекі, які старанна зашпіліў прадбачлівы пасажыр. У той час як «Жыгулі» разбіты ўшчэнт і не падлягаюць рамонту, швейцарац атрымаў толькі страсенне мазгоў, крывападцёк на грудзях і некалькі ран на твары ад разбітага шкла. Лічы — пашанцавала. Акурат сёння спадар Мюлер выпісаўся з бальніцы і паляцеў дадому, каб аддацца ў рукі швейцарскіх дактароў.

**Ілона ІВАНОВА.**

## АБУЗОРСКАЯ ТРАГЕДЫЯ

**Трагічна скончыўся тыдзень для трох маладых хлопцаў, якія ў гэтыя восеньскія дні выбраліся на рыбалку. Родныя, калі маладыя людзі не вярнуліся дадому, адразу западозрылі нядобрае. Горшыя прадчуванні апраўдаліся: усе трое загінулі ў халоднай вадзе.**

Трагедыя адбылася паблізу вёскі Абузор'е Чашніцкага раёна на возеры Новалукомскае. Наўрад ці зараз удасца ўзнавіць карціну здарэння, аднак вядома, што патанулі ўсе з-за таго, што, як гэта бывае, лодка, у якой знаходзіліся рыбакі, перакулілася. Дапамога таксама спазнілася. Па інфармацыі, якую ўдалося атрымаць у МУС, знойдзены пакуль толькі адзін тапелец. Дарэчы, у злашчаснай лодцы былі два браты і іх знаёмы.

**Ігар ГРЫШЫН.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.530. Індэкс 63850.
Зак. № 6323.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12